КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 34 (306) ◂ 7 верасня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



20 ГАДОЎ БЗВ

Стар. 6

## ДЗВЕ ЦЫТАТЫ

Нават у самага прасунутага чалавека пад пластом праграм, сфармаваных апошнімі дасягненнямі культуры, у латэнтным стане захоўваюцца праграмы, атрыманыя ў спадчыну з гістарычнага і нават дагістарычнага мінулага Стар. 4

## ТРЭЦЯЯ СПРОБА

Пра палітычны працэс у Квебеку журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае Мікола Мялюк, сябра рэдакцыі беларускай версіі выдання «Le Monde Diplomatique», які зараз працуе ў Манрэалі Стар. 11

## ЁН ЛЮБІЎ НАС ЯК РОДНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Стар. 14

ISSN 2218-2144

ЧЫТАЙЦЕ
Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

## ВОСТРЫЯ ГРАНІ ВЫЗВАЛЕННЯ

Нарыс Ігара Мельнікава

З НАГОДЫ

# ПАДРАЎНЯЕМ ВЭРЫ МАЧ

Вольга ХВОІН

**— Хаў а ю, дзеці?**

**— Ві а вэры мач!**




Кароценькі дыялог прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча і настаўніцы англійскай мовы 1 верасня ў сталічнай школе №42 стаў канцэнтраванай ілюстрацыяй стану беларускай адукацыі і агульнага ўзроўню адукаванасці не самых апошніх людзей краіны.

Тэму адукацыі абмяркоўваюць старанна і з усіх бакоў. Рэгулярна прапануюцца рэформы і новаўвядзенні. Тым часам год ад года вынікі цэнтралізаванага тэсціравання пагаршаюцца, колькасць педагогаў скарачаецца, ВНУ, якія рыхтуюць настаўнікаў, недабіраюць студэнтаў ды залічваюць на навучанне людзей з нізкімі баламі.

Белстат афіцыйна паведамляе, што за першыя шэсць месяцаў 2012 года колькасць занятых у сферы адукацыі ў Беларусі скарацілася на 15 тысяч чалавек. Педагогі скардзяцца на нізкія заробкі — у чэрвені сярэдні налічаны заробак у сферы адукацыі склаў 2919 тысяч рублёў, завал папяровай працай, розныя дадатковыя грамадскія нагрузкі, нізкі статус і, як вынік, непаважлівае стаўленне да сябе. Адсюль і масавы сыход педагогаў ці з прафесіі ўвогуле, ці пераход на рэпетытарства. І на справе атрымліваецца, што вышэй прыведзены дыялог Мясніковіча, як і ўся сістэма адукацыі: нам хочацца выглядаць прыстойна, гаварыць пра сучаснасць і прасунутасць, але насамрэч усё куды больш сумна.

Затое рэгулярна сыплюцца прапановы рэформаў. Вось свежы прыклад, агучаны на пачатку новага навучальнага года. Намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Анатоль Глаз мяркуе, што варта было б скасаваць гімназіі і ліцэі ды прывесці ўсё да звычайных школ. Мэта самая гуманная — эканомія бюджэту! (Хаця чаму б не скараціць колькасць міліцыі, ды ашчаджаныя рэсурсы інвеставаць у адукацыю як будучае краіны?)

«Практыка маёй працы паказвае, што гэтая форма часта набывае характар такой моды — як гэта, не мець у раёне гімназіі або агульнаадукацыйнага ліцэя?» — патлумачыў чыноўнік. Паводле яго слоў, пры розніцы фінансавання гімназіста і школьніка ў 35% фактычныя вынікі, якія дэманструюць сёння гімназіі, не тыя, якіх ад іх чакаюць. Толькі 25–30% выніку ад таго, які мусяць, гімназіі паказваюць на алімпіядах. Як тут ні прыгадаць нашых спартсменаў-алімпійцаў, якіх абвінавацілі ў наўмысна кепскіх выступленнях.

Дэпутат адзначыў, што горшы вучань часта спісвае ў лепшага, але цяпер лепшыя сыходзяць у гімназіі. Часам тое ж самае адбываецца і з настаўнікамі: лепшыя сыходзяць у гімназіі. «Мы ідзем па шляху рэзкага расслаення. Вось гэта школа — горшая, а вось гэта гімназія — элітная. Гэта няправільна», — падкрэсліў Анатоль Глаз.

У сваю чаргу, старшыня Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Уладзімір Здановіч дадаў, што праблема карупцыі цяпер прыходзіць і ў гімназіі: «Гэта ўжо не сакрэт, таму што туды кожны бацька спрабуе аддаць сваё дзіця. Нават з іншага мікраёна. Галоўнае, каб вучыўся ў гімназіі, а не ў звычайнай школе. Гэта значыць, да звычайнай школы пачалі ставіцца скептычна».

Уладзімір Здановіч адзначыў, што часам гэта прыводзіць да таго, што ў гімназіі трапляюць дзеці, якія наогул не маюць цягі да вучобы, але сумнеўна, што бацькі настолькі дурныя людзі, што будуць аддаваць дзяцей у гімназіі толькі дзеля прэстыжу, не азіраючыся на першапачатковую мэту — якасць адукацыі.

Нагадаем, што некалькі гадоў таму ў беларускіх школах закрылі профільныя класы, дзе можна было, напрыклад, больш глыбока вывучаць творчыя прадметы. Спецыялісты падобную ўраўнілаўку ацэньваюць негатыўна, бо ў выніку, незалежна ад сваіх здольнасцяў, дзеці займаюцца па агульных тыповых праграмах, што вядзе да выпальвання інтэлектуальнага патэнцыялу.

З не менш цікавай прапановай рэформаў не так даўно выступаў і кіраўнік дзяржавы. У прыватнасці Лукашэнка запатрабаваў скараціць тэрмін навучання ў ВНУ і ССНУ, а таксама загадаў перанесці адукацыйны працэс з аўдыторый «на поля, на фермы, на заводы, на фабрыкі».

«Атрымліваецца так, што студэнт з першага дня да заканчэння пятага курса сядзіць у аўдыторыі, яму пра нешта распавядаюць выкладчыкі. А я адкрыта казаў, хай на мяне не крыўдзяцца, многія выкладчыкі самі плятуцца ў хвасце падзей. Пра што яны могуць расказаць? Так склалася жыццё, што, дапусцім, у прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, канкрэтная вытворчасць сышла далёка наперад. А выкладчыкі, на жаль, адсталі, — заявіў беларускі палітычны лідар. — Таму трэба перанесці цэнтр цяжару ў вытворчасць, на палі, на фермы, на заводы, на фабрыкі, і там вучыць будучых спецыялістаў. Два гады, да прыкладу, яны павінны «грызці» навуку ў сценах акадэміі, універсітэтаў, інстытутаў, а астатнія два гады, калі мы скарачаем з пяці да чатырох гадоў тэрмін навучання па некаторых спецыяльнасцях, яны павінны быць на пэўнай вытворчасці». Разам з тым Лукашэнка рэзюмаваў, што рэформы ў адукацыі скончаныя, а гэта толькі «дашліфоўка».

Атрымліваецца, што першыя людзі дзяржавы спрабуюць давесці адукацыю да выдатнай сістэмы роўнасці і калгаснай практыкі. А самі пры гэтым у пераважнай большасці выпадкаў і двух словаў не здольныя звязаць. Затое ўсе на адным узроўні — недалёка ад плінтуса.

## ВЫБАРЫ

### БАРАНАВІЧЫ. ГАРВЫКАНКАМ НЕ КРЫТЫКАВАЦЬ!

Кандыдат у дэпутаты па Баранавіцкай-Заходняй выбарчай акрузе №5 Мікалай Чарнавус прадставіў сваю праграму для друку ў газету «Наш край», аднак галоўны рэдактар афіцыйнага выдання Міхась Шубіч настойліва папрасіў яго выкрасліць тыя месцы, дзе крытыкуецца гарвыканкам.

З такім жа патрабаваннем Мікалай Чарнавус сутыкнуўся і ў друкарні «Чырвоная зорка». У тэхнічным аддзеле яму заявілі, што толькі пасля праверкі ўлёткі ў гарвыканкаме друкарня будзе яе публікаваць.

«Мая перадвыбарчая праграма была агучана 28 жніўня па Брэсцкім тэлебачанні без скарачэнняў. А ў родных Баранавічах ад мяне патрабуюць, каб я выкрасліў крытыку ў адрас гарвыканкама. Я не згодны з такой пазіцыяй, таму і напісаў адпаведныя заявы ў ЦВК, старшыні АВК і начальніку мясцовай друкарні «Чырвоная зорка» Васілько А.А. з патрабаваннем, каб друкарня апублікавала поўны тэкст маёй праграмы», — патлумачыў Мікалай Чарнавус.

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

### ВІЦЕБСК. ХАМАЙДУ АШТРАФАВАЛІ ЗА ЗАКЛІК ДА БАЙКОТУ

Чатыры базавыя велічыні, або 400 тысяч рублёў штрафу, — такі прысуд вынесла суддзя суду Чыгуначнага раёна Віцебска Алена Цыганкова мясцоваму апазіцыянеру Барысу Хамайду за заклік да байкоту парламенцкіх выбараў.

Актывіст выйшаў на вуліцу Леніна з плакатам «Незаконным выбарам у незаконную «палатку» — байкот!». Як распавядае Барыс Хамайда, ён каля дзвюх гадзінаў прастаяў з плакатам каля гэтак званага «сіняга дому», затым апазіцыянера затрымалі міліцыянты і адвезлі ў Чыгуначны РАУС, дзе склалі пратакол за несанкцыянаваны пікет, а плакат адабралі.

«Хаця я і тлумачыў, што гэта агітацыйная кампанія ідзе. Але яны кажуць: не, усё роўна патрэбна дазвол браць. Я ім кажу, што няма ў каго браць дазвол — няма легітымнай улады. Я ж таму і з плакатам стаяў, што незаконныя выбары і незаконная палатка. Трэба байкатаваць гэта. Менавіта ўсё гэта цягнецца з 1996 года, калі адбыўся антыканстытуцыйны пераварот. І гэта аснова — чаму нельга ўдзельнічаць у гэтых так званых выбарах. Таму што няма прававога грунту. Бо калі б дзейнічала Канстытуцыя 1994 года, то ўсё б было законна і легітымна».

Паводле словаў Барыса Хамайды, у Віцебску гэта быў першы агітацыйны пікет за сёлетнюю парламенцкую выбарчую кампанію. Кандыдаты ў дэпутаты пакуль не пачыналі вулічнай агітацыі.

**Радыё «Рацыя»**

### ШКЛОЎ. КАНТРАЛЁР ВЫКАРЫСТОЎВАЕ СВАЁ СТАНОВІШЧА

5 верасня кандыдаты ў дэпутаты па Шклоўскай выбарчай акрузе №90 — намеснік старшыні партыі БНФ Рыгор Кастусёў і сябра партыі левых «Справядлівы свет» Зінаіда Мілешчанка — падалі ў акруговую камісію сумесную скаргу на дзеянні намесніка старшыні Камітэту дзяржкантролю Беларусі Аляксандра Агеева.

У скарзе сцвярджаецца, што Агееў выкарыстоўвае службовае становішча для вядзення сваёй перадвыбарчай кампаніі.

«Кандыдат у дэпутаты, які з'яўляецца намеснікам старшыні КДК Беларусі, Аляксандр Агееў сапраўды выкарыстоўвае сваё службовае становішча для вядзення перадвыбарчай кампаніі. Гэта тым больш сумна, паколькі гэты чалавек з'яўляецца намеснікам старшыні ведамства, якое павінна кантраляваць выкананне законаў у краіне. У скарзе мы прыводзім два найбольш яскравыя факты такіх парушэнняў, што асвятляліся нават у дзяржаўным друку, каб акруговая камісія не змагла сказаць, што мы кажам няпраўду, — кажа Рыгор Кастусёў. — Ужо пасля рэгістрацыі ў якасці кандыдата, якая адбылася 22 жніўня, Аляксандр Агееў як намеснік старшыні КДК Беларусі 23 жніўня праводзіў прамую тэлефонную лінію з жыхарамі Круглянскага раёна. Гэты раён, як вядома, уваходзіць у Шклоўскую выбарчую акругу №90, дзе Агееў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Ну а 24 жніўня гэты кандыдат прыняў удзел у педагагічнай канферэнцыі ў Бялынічах, яго здымак быў змешчаны на першай старонцы раённай газеты «Зара над Друццю». Мы прывялі толькі найбольш яўныя парушэнні з боку кандыдата ў дэпутаты Агеева, які ў гэты час ужо павінен быў знаходзіцца ў адпачынку».

**«Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

ІНІЦЫЯТЫВА

## СУПРАЦЬ КАТАВАННЯЎ

**Большасць пракурораў Віцебскай вобласці нават не чула пра далучэнне Беларусі да Канвенцыі супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання. Пра гэта распавёў праваабаронца Павел Левінаў.**

Ён зрабіў такія высновы падчас кампаніі па інфармаванні пракурораў Віцебскай вобласці наконт заўваг Камітэта ААН супраць катаванняў і распаўсюду альтэрнатыўнага дакладу беларускіх няўрадавых арганізацый і праваабаронцаў.

Беларускія праваабаронцы прынялі рашэнне паінфармаваць пракурораў усіх узроўняў пра Камітэт ААН супраць катаванняў, пра Канвенцыю супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання, пра даклад беларускіх няўрадавых арганізацый і праваабаронцаў па выкананні Рэспублікай Беларусь узятых на сябе абавязкаў, пра выніковыя заўвагі Камітэта ААН супраць катаванняў у дачыненні да Рэспублікі Беларусь, пра сітуацыю з правамі чалавека на падведамнай тэрыторыі.

Павел Левінаў адзначыў: «З сярэдзіны ліпеня па канец жніўня 2012 года я асабіста наведаў усіх пракурораў Віцебскай вобласці. 25 пракурораў я наведаў па месцы іх знаходжання. Пасля вуснага інфармавання па згаданых вышэй пытаннях пракурору ўручалася кароткае пісьмовае інфармаванне, да якога прыкладаўся Даклад беларускіх няўрадавых арганізацый і праваабаронцаў і выніковыя заўвагі Камітэта ААН супраць катаванняў у дачыненні да Рэспублікі Беларусь. Пракурорам Ушацкага і Пастаўскага раёнаў інфармацыя накіравана па пошце».

Многія пракуроры нават не чулі, што Беларусь далучылася да Канвенцыі, і што гэта накладае на краіну міжнародныя абавязанні па выкананні праў чалавека, што дзяржава абавязана рабіць справаздачы перад міжнароднай супольнасцю пра выкананне ўзятых абавязкаў. Гэта было для большасці адкрыццём.

Па выніках сустрэч некаторыя раёны ініцыявалі абследаванне памяшканняў месцаў зняволення, каб даць адказ. Аднак большасць пракурораў адхрысціліся ад праблемы ў сувязі з адсутнасцю пэўных фактаў у дакладзе па іх раёнах.

**Паводле Службы інфармацыі Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь»**

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## ПРАГРЭС АДСОЎВАЕЦЦА

**Вольга ХВОІН**

**Цяпер многа размоў вядзецца вакол ініцыятывы ЕС «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю». Асноўныя мэты гэтай ініцыятывы — стварэнне сучаснай і дэмакратычнай мадэлі развіцця Беларусі і дапамога ў ажыццяўленні неабходных рэформаў, ацэнка патэнцыялу развіцця далейшых адносін паміж ЕС і Беларуссю ў рамках праграм «Еўрапейская палітыка суседства» і «Усходняе партнёрства».**

Але еўрапейскія палітыкі і даследчыкі падкрэсліваюць, што бліжэйшым часам нармалізацыі адносінаў паміж Беларуссю і ЕС чакаць не варта, а магчымыя перамены ў краіне трэба звязваць найперш з грамадзянамі, а не са знешнімі сіламі і інструментамі.

«На мой погляд, сярэднетэрміновыя і кароткатэрміновыя перспектывы ўзаемаадносінаў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам не надта добрыя. Я не бачу падстаў для змены сітуацыі ўнутры Беларусі. І ў шэраг гэтых прычын я дадаю і Расію», — гаворыць Марка Міхкельсон, старшыня камітэта па замежных справах парламента Эстоніі. Міхкельсон заўважае, што знешняя палітыка ЕС у дачыненні да Беларусі не сфарміраваная. «Цяпер, калі ў вас змяніўся міністр МЗС (Уладзімір Макей, які знаходзіцца ў спісах неўязных у ЕС — аўт.) у краінах ЕС абмяркоўваюць, ці дасылаць яму віншаванне. У Брусэлі жнівень — час адпачынкаў. І вось яны думаюць, што з Макеем трэба працаваць, але не змяняць яго статус», — распавядае пра казусы еўрапейскіх палітычных калідораў старшыня камітэта па замежных справах парламента Эстоніі.

Марка Міхкельсон нагадвае, што на Беларусь вялікі ўплыў мае Расія, і Еўропа не мае жадання цяпер з ёй у гэтым сур'ёзна спаборнічаць. «Мы бачым, што кіраўніцтва Расіі кіруецца тым, што распад СССР быў самай вялікай геапалітычнай катастрофай XX стагоддзя. І зразумела, што для Расіі не аддаваць сферы свайго ўплыву — ключавое пытанне. Таму нам застаецца спакойна працаваць на будучыню. Я думаю, што было б няправільна цалкам блакаваць адносіны з афіцыйным Мінскам ці прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці», — зазначае эстонскі палітык.

Нявызначанасць Брусэлю пацвярджае і навуковы супрацоўнік Фінскага інстытута міжнародных спраў Анаіс Марын. «Ад прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і разгону мітынгу прайшло 18 месяцаў. За гэты час з боку ЕС былі ідэі санкцый, Дыялогу аб мадэрнізацыі. Але перайсці да цэласнай стратэгіі, відаць, не атрымалася. Ці, можа, стратэгія схаваная, і я папросту не бачу яе. І ўвогуле, я не бачу з боку Брусэля жадання адыйсці ад легітымізацыі рэжыму і гуляць па яго правілах. Калі працягваць логіку ЕС, то трэба было не прымаць ніводныя выбары, як тое было з рэферэндумамі. А цяпер ЕС трапіў у сваю ж пастку. Рэпертуар пугі і перніка Лукашэнка добра вывучыў і сам ім карыстаецца», — рэзюмуе Анаіс Марын. Эксперт дадае, што цяпер не варта чакаць нейкага надзвычайнага прагрэсу ў стасунках з ЕС, бо такога пункту папросту няма ў першасных патрэбах ні Беларусі, ні Еўрасаюза.

СУД

## СКАРГУ НЕ ЗАДАВОЛІЛІ

**5 верасня Вярхоўны суд не задаволіў скаргу Рыгора Грыка на нерэгістрацыю яго кандыдатам у дэпутаты па Баранавіцкай-Усходняй выбарчай акрузе №6.**

Камісія прызнала несапраўднымі 18% подпісаў грамадзян за яго вылучэнне ў кандыдаты.

Суддзя ВС Самалюк В.І. не разглядала заявы грамадзян, якія пісьмова пацвердзілі сапраўднасць сваіх подпісаў. Старшыня АВК №6 Тамара Шукала, у сваю чаргу, прадставіла 18 заяваў грамадзян, у якіх паведамляецца, што дата і подпіс настаўлены Рыгорам Грыкам. Каму верыць? Вярхоўны суд традыцыйна паверыў прадстаўніку АВК.

«Я прасіў Вярхоўны суд адмяніць рашэнні АВК №6 і ЦВК і зарэгістраваць мяне кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Зразумела, што іншага рашэння ад Вярхоўнага суда сёння я і не чакаў», — адзначыў Рыгор Грык.

ЗАПРАШАЕМ

## ШКОЛА МАЛАДЫХ МЕНЕДЖАРАЎ

**Міжнародная адукацыйная праграма SYMPA абвяшчае чацвёрты набор удзельнікаў у Школу маладых менеджараў публічнага адміністравання.**



Праграма накіравана на фармаванне ў Беларусі супольнасці маладых людзей, кампетэнтных у галіне дзяржаўнага кіравання і публічнага адміністравання на розных узроўнях. Да ўдзелу запрашаюцца маладыя людзі ва ўзросце ад 25 да 40 гадоў, якія валодаюць англійскай мовай і занятыя ў сферах дзяржаўнага кіравання, адукацыі, сацыяльнай працы, а таксама тыя, хто зацікаўлены бізнэсам, дзейнасцю грамадскіх арганізацый і палітычным жыццём.

Праграма складаецца з 4 вочных навучальных сесій, якія ладзяцца ў Беларусі, Літве, Малдове (ці Грузіі) і Швецыі, і міжсесійнай працы ўдзельнікаў, якая ўключае самастойны аналіз даследаваных падчас сесій матэрыялаў, удзел у круглых сталах з прадстаўнікамі беларускай экспертнай супольнасці, палітыкамі і дыпламатамі, а таксама самастойную арганізацыю семінараў па тэматыцы школы.

Азнаёміцца з больш падрабязнай інфармацыяй, а таксама атрымаць форму заяўкі вы можаце на сайце SYMPA.

Заяўкі на ўдзел у праграме прымаюцца на адрас info@sympa-by.eu да 24:00, 26 верасня.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЯК СТВАРЫЦЬ ПРАБЛЕМУ НА ПУСТЫМ МЕСЦЫ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Калі карабель развальваецца, позна затыкаць дзіркі. А калі нарабілі дзірак, то і не скардзіцеся на тое, што не даплываце ў светлую будучыню. Прыкладна так можна сказаць пра падзеі ў Беларусі.**

Вось прытуліла на сваю галаву Беларусь сямейку Бакіева, і зараз не вылазіць са скандалаў. Дзякуючы актывісту беларускай апазіцыі Міхаілу Пашкевічу ўвесь свет даведаўся, што ў краіне знаходзіцца не толькі Курманбек Бакіеў, але і яговы малодшы брат Жаныш. І знаходзіцца не адзін — на здымку, як паведамляе кіргізская пракуратура, ён фігуруе з целаахоўнікам Рустамам Сайдуевым і былым намеснікам Тахірам Рысаліевым.

Жаныбек Бакіеў знаходзіцца ў міжнародным вышуку па абвінавачанні ў асабліва цяжкіх злачынствах. 24 жніўня ўлады Кыргызстана адклікалі з Мінска свайго пасла.

28 жніўня на пасольства Беларусі ў Бішкеку быў учынены напад, у будынку было разбіта шкло. Дыпмісію атакавалі сваякі ахвяраў дзяржаўнага перавароту 2010 года, якія патрабавалі экстрадыцыі Курманбека і Жаныбека Бакіевых, што абвінавачваюцца ў масавых забойствах. Удзельнікі мітынгу патрабавалі спынення працы пасольства і разрыву дыпадносін з уладамі Беларусі, якія «хаваюць забойцаў». Мітынгоўцы разышліся пасля таго, як пасол Беларусі ў Кыргызстане Віктар Дзенісенка паабяцаў інфармаваць іх праз МЗС Кыргызстана пра тое, як вырашаецца пытанне аб экстрадыцыі Бакіевых.

На гэтым тыдні Дзенісенка паказаў сваякам загінулых «прынцыповую пазіцыю», больш падобную на дулю. Генеральная пракуратура Беларусі адмовіла Кыргызстану ў выдачы Жаныша Бакіева.

«Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Беларусь у чэрвені 2012 года быў разгледжаны запыт Генеральнай пракуратуры Кыргызскай Рэспублікі аб выдачы Ж. Бакіева для прыцягнення да крымінальнай адказнасці, — гаворыцца ў паведамленні. — У адпаведнасці з падпунктам е) пункта 1 артыкула 89 Канвенцыі аб прававой дапамозе і прававых адносінах па грамадзянскіх, сямейных і крымінальных справах ад 7 кастрычніка 2002 года, выдача не робіцца, калі маюцца важкія падставы меркаваць, што запыт аб выдачы звязаны з пераследам асобы па прыкмеце расы, полу, веравызнання, этнічнай прыналежнасці або палітычных перакананняў».

Беларускі бок, падкрэслівае Генпракуратура, мяркуе, што з улікам падзей і характару высунутых Жанышу Бакіеву абвінавачанняў, што адбыліся ў Кыргызскай Рэспубліцы, «запыт аб выдачы звязаны з пераследам яго па прыкмеце палітычных перакананняў». «Таму запыт Генеральнай пракуратуры Кыргызскай Рэспублікі аб выдачы Ж. Бакіева пакінуты без задавальнення», — матывуе сваю пазіцыю Генпракуратура Беларусі.

Тым часам 5 верасня кіргізскае інфармагенцтва 24.kg апублікавала інтэрв'ю з начальнікам Галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС Кыргызстана Умарам Жунусавым. Ён паведаміў, што Генеральная пракуратура Беларусі не дае супрацоўнікам крымінальнага вышуку Кыргызстана дазволу на затрыманне Жаныша Бакіева і яго набліжаных. Паводле слоў Жунусава, ГУКВ МУС неаднаразова звярталася праз Генпракуратуру Кыргызстана ў галоўны наглядны орган Беларусі для правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў у Мінску. «Аднак беларускі бок на запыты не адказвае», — сказаў ён.

Селі ў лужыну мы і з іншымі «бакіеўцамі». Як паведамляюць СМІ, яшчэ ў чэрвені ў Казахстане быў затрыманы былы дырэктар Дзяржматрэзерваў Кыргызстана Пайзулабек Рахманаў. Фішка ў тым, што ён меў пры сабе пашпарт грамадзяніна Беларусі на імя Пазыла Ташбаева, 1955 года нараджэння, ураджэнца Алматы, выдадзены ў 2011 годзе Першамайскім РУУС горада Мінска.

Вось навошта было перавозіць у Беларусь увесь клан Бакіева? Аднаго экс-прэзідэнта было малавата? І так аскандаліліся.

Зараз, кляць некаторыя аглядальнікі, Кыргызстан можа абвясціць Беларусі вайну, каб дазволіць дзейнічаць на яе тэрыторыі сваім спецпадраздзяленням, якія ліквідуюць Бакіева і кампанію (у сэнсе, вывезуць яго назад на радзіму), як раздражняльны фактар, які перашкаджае нармальным стасункам паміж двума братэрскімі народамі. І праблема вырашыцца.

Спужалася ўласнай смеласці і Лідзія Ярмошына. Раней як дасягненне было агучана, што на тэлебачанні кандыдаты ў дэпутаты і іх даверанныя асобы могуць праводзіць дэбаты — цягам пяці (!) хвілін і ў запісе(!!). Дэбаты — якія транслююцца ў запісе — гэта ўвогуле разгул дэмакратыі, канешне. Але ж і зараз апазіцыя бачыцца ў якасці даверанага асобы. Але ж і зараз апазіцыя быццам бы знайшла лазейку, і павярнула ўсё на сваю карысць.

Цэнтрвыбаркам на пасяджэнні 5 верасня прыняў рашэнне забараніць кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў браць удзел у дэбатах у якасці даверанай асобы іншага кандыдата.

Як паведаміла кіраўнік ЦВК Лідзія Ярмошына, у Цэнтральную камісію сталі паступаць пытанні аб праве кандыдатаў браць удзел у дэбатах у якасці даверанных асоб іншых кандыдатаў.

«Справа ў тым, што кандыдаты, зарэгістраваныя даверанымі асобамі іншых кандыдатаў, пашыраюць магчымасці вядзення сваёй агітацыйнай кампаніі», — сказала яна. Ярмошына паведаміла, што лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, кандыдат у дэпутаты, таксама з'яўляецца даверанай асобай 17 кандыдатаў у дэпутаты.

«Такім чынам, ён тэарэтычна можа браць удзел у дэбатах 18 разоў», — зазначыла яна. Яшчэ адзін кандыдат у дэпутаты ад АГП — кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі — з'яўляецца даверанай асобай 14 кандыдатаў, а кандыдат у дэпутаты ад Ліберальна-дэмакратычнай партыі акцёр Яўген Крыжаноўскі — у сямі.

«Калі пісалася выбарчае заканадаўства, меркавалася, што кандыдат сам будзе браць удзел у дэбатах; калі не можа гэта ажыццявіць фізічна — замест яго можа выступіць яго даверанная асоба. Нікому ў галаву не прыйшло, што гэта можа ператварыцца ў пралаз для пашырэння магчымасцяў агітацыі на карысць аднаго кандыдата. Усе кандыдаты павінны мець роўныя магчымасці», — мяркуе Ярмошына.

Лепей бы пра роўныя магчымасці Ярмошына распавяла дзяржаўным СМІ, якія шчыра прапагандуюць дзейсных дэпутатаў і іх праўладных «зменшчыкаў». Па-першае, ніхто не забараняе зрабіць тое ж, што Лябедзька, і іншаму кандыдату. А па-другое, абіраць Лябедзьку ўсё роўна будуць толькі па адной акрузе.

Лепш бы зусім не ўводзілі гэты «нібыта роўнасны» цэнз, і давалі б слова каму заўгодна, як Лукашэнку на выбарах у 1994-м. Выбаршчыкі і так бачаць, хто там дурань, а хто не, і ніякая «колькасць разоў выступу па тэлебачанні» на гэта не ўплывае.

І яшчэ Ярмошына паскардзілася на тое, што агітацыйная кампанія праходзіць не надта актыўна. Па яе словах, не ўсе кандыдаты падалі заявы на правядзенне вулічных агітацыйных мерапрыемстваў, не ўсе кандыдаты нават заказалі свае друкаваныя агітацыйныя матэрыялы, не ва ўсіх акругах адбудуцца дэбаты… Дык, канешне, калі забараніць усё, што магчыма, калі на пікеты кандыдатаў патрэбна падаваць заяву, калі агітацыйныя матэрыялы тысячы разоў цэнзуруюцца і ўзгадняюцца, калі ёсць абмежаванне ў дэбатах — адкуль жа возьмецца актыўнасць?

Карацей, калі выбары не адбудуцца, вінаватым у гэтым будзе ЦВК.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ІГАР БОКІЙ

Беларускі плывец Ігар Бокій заваяваў чацвёртае золата на лонданскіх Паралімпійскіх гульнях–2012. 18-гадовы бабруйчанін быў першым у фінале дыстанцыі на 400 метраў вольным стылем. Пры гэтым ён двойчы за дзень абнавіў сусветны рэкорд. У папярэднім заплыве ён паказаў вынік 4 хвіліны 2,83 секунды, а ў фінале больш чым на 4 секунды палепшыў сваё ж дасягненне — 3 хвіліны 58,8 секунды.

Найбліжэйшы канкурэнт Даніла Чуфараў з Украіны адстаў адразу на 7,07 секунды. Бронзу заваяваў расіянін Аляксандр Галінтоўскі.

Медальны кошык беларускай каманды на Паралімпійскіх гульнях–2012 у Лондане павялічыўся да сямі ўзнагарод. Прычым пяць з іх заваяваў плывец Ігар Бокій. 31 жніўня ён выйграў золата на дыстанцыі 100 метраў батэрфляем, 1 верасня стаў срэбным прызёрам на 50 метрах вольным стылем, 2 верасня папоўніў калекцыю золатам на стометроўцы вольным стылем, 3 верасня выйграў золата з сусветным рэкордам на дыстанцыі 100 метраў на спіне, а 4 верасня стаў лепшым на дыстанцыі 400 метраў вольным стылем, зноў усталяваўшы рэкорд планеты.

У актыве беларускіх паралімпійцаў яшчэ дзве бронзы. Лёгкаатлет Аляксандр Субота 1 верасня здабыў бронзу ў трайным скачку, а 2 верасня Людміла Воўчак заняла трэцяе месца ў акадэмічным веславанні.

У медальным заліку Паралімпійскіх гульняў Беларусь з чатырма залатымі медалямі, адным срэбным і двума бронзавымі займае 21-е месца. У першай тройцы — Кітай, Вялікабрытанія, Расія.

Беларусь у Лондане прадстаўлена 31 спартсменам-паралімпійцам у сямі відах спорту: лёгкай атлетыцы (7 удзельнікаў), плаванні (6), акадэмічным веславанні (8), фехтаванні (5), дзюдо (2), веласпорце (2), паўрліфтынгу (1) .

### ЮРЫЙ ДАНЬКОЎ




Уладальнік прэстыжнай сталічнай забаўляльнай установы Dankoff Club Юрый Данькоў затрыманы 4 верасня ў Мінску. Як паведамілі БелаПАН у Следчым камітэце па Мінску, Юрый Данькоў падазраецца ў здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч. 2 арт. 171 КК (выкарыстанне занятку прастытуцыяй ці стварэнне ўмоў для занятку прастытуцыяй, учыненыя службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў). Ён змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання ГУУС Мінгарвыканкама. Высвятляецца датычнасць Данькова да іншых злачынстваў.

4 верасня ў Dankoff Club праводзіўсяператрус і іншыя следчыя дзеянні ў межах крымінальнай справы, заведзенай напрыканцы жніўня Следчым камітэтам у дачыненні да мастацкага кіраўніка і адміністратара ТАА Dankoff Club. Яны падазраюцца ў тым, што з 2006 года давалі памяшканні ў клубе для занятку прастытуцыяй. Мастацкі кіраўнік Dankoff Club быў затрыманы.

Dankoff Club — адзін з найбуйнейшых забаўляльных цэнтраў Мінска, куды ўваходзяць казіно Dankoff Club, стрыптыз-клуб Venецыя, рэстаран Dankoff Club, SPA-салон For Men.

У 2001 годзе Юрый Данькоў удзельнічаў у выбарах прэзідэнта, але не змог падаць у Цэнтрвыбаркам неабходную для вылучэння кандыдатам колькасць подпісаў.



### ЛЕАНІД ПІСАНІК

Старшыня Ельскага райвыканкама Леанід Пісанік набывае сабе аўтамабіль Touareg V6 TDI Tiptronic колеру «вясенні перламутр» за 587 мільёнаў рублёў з мясцовага бюджэту. Гэтую інфармацыю карэспандэнт tut.by знайшоў у адкрытым доступе на сайце Goszakupki.by.

На пытанне журналіста, ці нельга было выбраць начальству больш сціплы аўтамабіль, супрацоўніца Ельскага райвыканкама Надзея Якушэнка адказала коратка: «Ну, гэта ж для старшыні...»

Да слова, Леанід Пісанік прыйшоў на пасаду старшыні райвыканкама летась. Заступаючы на новую пасаду чыноўнік заяўляў: «Галоўнае сёння — гэта эфектыўнасць у сельскагаспадарчай вытворчасці, прамысловай вытворчасці, праца з людзьмі. Трэба стварыць усе ўмовы, каб людзям у раёне жылося камфортна, утульна, каб усе жыццезабеспячэнне раёна функцыянавала нармальна. З гэтага, думаю, і пачаць працу».

▸ **АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ**

# ДЗВЕ ЦЫТАТЫ

Сяргей НІКАЛЮК

**Традыцыйны чалавек увесь час адчувае сябе ў якасці аб'екта прыкладання знешніх сіл. Яны разнастайныя і ўсюдыісныя: ад архаічных вадзянікоў і лесуноў да «адмарозкаў» з так званай апазіцыі.**




Бог, як вядома, любіць тройцу. Таму цалкам натуральна, што за «Двума поглядамі на перспектыву эканамічнага росту» і «Дзвюма дэкларацыямі» надышла чарга «Азбукі паліталогіі», загаловак якой таксама пачынаецца з лічэбніка «два». Паспрабую падвесці пад сваю прыхільнасць да такой, здавалася б, ардынарнай лічбы тэарэтычную базу.

Вылучэнне чалавека са свету прыроды пачалося пасля таго, як ён упершыню ўсвядоміў сваё Я ў якасці апазіцыі астатняму свету. «З гэтага моманту, — на думку культуролагаў Андрэя Пеліпенкі і Ігара Якавенкі, — адрыў ад прыроды стаў незваротным, і чалавек быў вырачаны на пошук стратэгіі выжывання праз культуру».

Культура — гэта сукупная прастора сэнсаў. У аснове ж усялякага сэнсаўтварэння палягаюць крайнасці і полюсы (бінарныя апазіцыі). Апазіцыя «Я–іншае» — толькі першая ў гістарычным ланцужку. Пасля таго, як колькасць апазіцый дасягнула крытычнага ўзроўню, адбылася Дуалістычная рэвалюцыя, падчас якой шматлікія апазіцыі, спароджаныя чалавечым уяўленнем, размеркаваліся паміж двума галоўнымі полюсамі — Дабром і Злом. Адсюль ужо было недалёка да монатэістычных рэлігій выратавання — хрысціянства і ісламу.

На піку Дуалістычнай рэвалюцыі ў яе заходне-хрысціянскай інтэрпрэтацыі еўрапеец быў гатовы не толькі знішчаць агнём і мячом апанентаў уласнай версіі Дабра, але і сам ісці ў агонь дзеля яе перамогі. Пасля расколу заходняга хрысціянства Еўропу на 150 гадоў ахапілі рэлігійныя войны.

Але тое, што ў еўрапейцаў засталося ў мінулым, у ісламе і зараз працягвае генераваць сацыяльную энергію: масавы рэлігійны фанатызм дазваляе рэкрутаваць фактычна неабмежаваную колькасць тэрарыстаў-смяротнікаў.

## Не ў клазетах, а ў галовах…

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, нягледзячы на савецкую прапаганду, не здолела стаць новым словам у гісторыі чалавецтва. Яна толькі аформіла чарговую версію барацьбы сусветнага Дабра з сусветным Злом, і паздавіла два полюсы бінарнай метаапазіцыі сакральнага статусу. Гэта дазволіла працягнуць знішчэнне мільёнаў «няверных», але ўжо не дзеля дасягнення раю ў іншым, лепшым свеце, а ў імя светлай камуністычнай будучыні.

Распад Савецкага Саюза, успрыняты шмат кім як «найвялікшая трагедыя XX стагоддзя», азначаў заканчэнне Дуалістычнай рэвалюцыі ў праваслаўнай цывілізацыі (сярод мусульманскіх народаў Расіі яна яшчэ далёкая да завяршэння). Аднак з гэтага факту не вынікае, што яе адэпты ў Беларусі зніклі. Не, яны па-ранейшаму складаюць устойлівую большасць, але гэта большасць пасіўная. Немагчыма ўявіць сабе, каб прадстаўнікі большасці па ўласнай ініцыятыве выйшлі на Плошчу, напрыклад, для таго, каб выказаць радасць з нагоды чарговай электаральнай перамогі свайго куміра. Пра фанатыкаў жа, гатовых хоць чым-небудзь ахвяраваць дзеля абароны афіцыйнай версіі Дабра, сёння нават гаворка не ідзе.

**Нават у самага прасунутага чалавека ў латэнтным стане захоўваюцца праграмы, атрыманыя ў спадчыну з гістарычнага і нават дагістарычнага мінулага**

Разруха, як геніяльна заўважыў Міхаіл Булгакаў, не ў клазетах, а ў галовах. Яна — вынік так да канца і не загоеных ран Дуалістычнай рэвалюцыі. Таму мы даўно ўжо не здзіўляемся, што адмежаванне «сваіх» ад «чужых» працягвае складаць аснову унутранай і знешняй палітыкі рэспублікі-партызанкі.

Яшчэ адзін прыклад разрухі ў галовах — пастаяннае адчуванне сябе ў якасці аб'екта прыкладання знешніх сіл. Яны разнастайныя і ўсюдыісныя: ад архаічных вадзянікоў і лесуноў да «адмарозкаў» з так званай апазіцыі і некаторых сусветных сіл, якія маюць свае інтарэсы і зацікаўленыя *«в разрушении той стабильности, которая сегодня присутствует в белорусском обществе и государстве»*.

Вось тут і надышоў час прывесці дзве цытаты. Першую я запазычыў з прэс-рэлізу, прысвечанага выступу адзінага палітыка (АП) з нагоды прызначэння новага міністра замежных спраў: *«По мнению президента, особенность текущей ситуации состоит в том, что источники основных вызовов и угроз для Беларуси, как экономического, гуманитарного, социально-политического, так и классического военного характера, находятся <u>за ее пределами</u>* (падкрэслена намі — С. Н.)».

Другая цытата — фрагмент дакладу міністра эканомікі Мікалая Снапкова на пасяджэнні Саўміна 8 жніўня: *«Глубина интеграции, которая заложена в идеологии Декларации о Евразийской экономической интеграции, не спасает от конкуренции со стороны мировых игроков. Как показывает опыт Европы, интеграция не является единственным фактором, подтягивающим отстающие страны до среднего уровня, а это значит, что потенциал и основные риски развития — **<u>внутренние</u>*** (падкрэслена ў афіцыйным тэксце дакладу)».

## Інвестыцыйны патэнцыял сусветнага Зла

Улюбёная тэма палітолагаў, што вывучаюць аўтарытарныя палітычныя рэжымы, — раскол эліт. Google на гэта словазлучэнне знайшоў 355 тысяч спасылак. Працытую ўрывак з першай: «Не сакрэт, што рэвалюцыі засўёды робяць эліты. Напэўна, Дзмітрый Анатолевіч хацеў неяк дагадзіць свайму ліберальнаму асяроддзю і прадстаўнікам тых сіл, якія арганізавалі пратэстныя мітынгі. Але па факце ён унёс поўны сумбур у сітуацыю… Справа не ў тым, ці збіраецца ўлада аднаўляць аднамандатныя акругі, ці не. Праблема нават не ў тым, што ўсё гэта вельмі нагадвае рэваншызм. Мы маем гіганцкі раскол эліт, які можа справакаваць вялікую ўнутраную грамадзянскую вайну».

Дык вось яно як! Прамовіў Дзмітрый Анатолевіч колькі ліберальных лозунгаў — і трэснула расійская эліта па швах. Але калі казаць сур'ёзна — а такая гаворка не магчымая без спасылак на аўтарытэт, — то, на думку амерыканскага палітолага Адама Пшэворскага, наяўнасць расколу ў кіроўнай эліце поруч з уздымам актыўнасці грамадзянскай супольнасці з'яўляюцца галоўнымі ўмовамі трансфармацыі аўтарытарных рэжымаў.

Чаму ж тады пры такім сур'ёзным разыходжанні ў ацэнках крыніц пагроз паміж АП і міністрам эканомікі сёння не даводзіцца казаць пра наяўнасць гіганцкага расколу ў асяроддзі беларускай эліты? Верагодна, па той жа прычыне, па якой прадстаўнікі большасці не здольныя выйсці на Плошчу. Дуалістычная рэвалюцыя завяршылася. І калі АП палохае нас сусветным Злом, якое нібыта пагражае сусветнаму Дабру, то вялікія літары ў гэтых словах з'яўляюцца хутчэй данінай традыцыі, чым адлюстроўваюць рэальныя ўяўленні нашага героя пра сацыяльна-палітычныя працэсы ў сучасным свеце.

Падмацую сказанае адпаведнымі цытатамі: *«Но динамика внешнеторговых показателей, объем привлеченных инвестиций должны быть главными индикаторами оценки каждого руководителя в системе органов дипломатической службы… Поэтому нашему МИДу надо засучив рукава втянуться в кропотливую и напряженную работу. И пахать. Бороться за каждый рубль инвестиций в страну»*.

Пра барацьбу за чые інвестыцыі ідзе гаворка? Няцяжка здагадацца, што самы жаданы інвестар у Беларусі — гэта прадстаўнік сусветнага Зла. Нездарма ж акадэмік Анатоль Рубінаў у серыі артыкулаў, апублікаваных у «СБ», так пераканаўча даводзіў, што «лепшыя дасягненні навукі, тэхнікі, тэхналогіі, больш дасканалыя формы дзяржаўнага ўладкавання (!) назіраюцца ў Заходняй Еўропе, у ЗША, у іншых развітых краінах».

Свае высновы ён падмацаваў спасылкай на эксперыменты, якія паставіла сама гісторыя, «што называецца, у чыстым выглядзе» — ГДР і ФРГ, Паўночная і Паўднёвая Карэя. Не забыўся акадэмік параўнаць і паваенное развіццё СССР і Заходняй Германіі, «г. зн. краін, што былі аднолькава разгромленыя вайной і якія мелі, такім чынам, блізкія стартавыя ўмовы».

## Паліятывам па эклектыцы

Структуру асобы складае набор узгодненых паміж сабой ментальных праграм, што сфармаваныя як культурай, так і прыродай (інстынктыўныя). У адрозненне ад кампутарных праграм, якія можна не толькі ўстанавіць, але і выдаліць, ментальныя праграмы выдаліць нельга. Нават у самага прасунутага чалавека пад пластом праграм, сфармаваных апошнімі дасягненнямі культуры, у латэнтным стане захоўваюцца праграмы, атрыманыя ў спадчыну з гістарычнага і нават дагістарычнага мінулага. Пад уздзеяннем знешніх «раздражняльнікаў» яны могуць уключацца практычна імгненна, што і назіраецца ў большасці рэвалюцыйных сітуацый.

Вось як апісвае сацыёлаг Юры Левада свае наіўныя ўяўленні наконт нараджэння «новага чалавека» падчас Перабудовы: «Можна быццам бы быць свабодным, усе навокал заклікаюць да свабоды, а асабліва свабоды не атрымліваецца. Атрымалася нейкая кааператыўная дурнота, першы прыступ рынка з усімі сваімі смешнымі і цікавымі бакамі. А вось новага чалавека, як істоты свядомай і разумнай, не было відаць. Наадварот, як толькі чалавека вызвалілі, ён кінуўся назад, нават не да ўчарашняга, а да пазаўчарашняга дня. Ён стаў традыцыйным, ён пачаў уяўляць сабой чалавека дапятроўскага, а не проста дасавецкага».

Вернемся да галоўнага героя «Азбукі паліталогіі». Чалавек традыцыйнай культуры, ён, тым не менш, разумее, што *«мы — небольшое европейское государство и должны быть максимально мобильными и эффективными»*. Аднак ні мабільнасць, ні эфектыўнасць з традыцыйнай культурай не сумяшчальныя. Таму для апісання таго, што мы назіраем, найлепш падыходзіць словы «эклектыка» (змешванне, спалучэнне разнастайных стыляў, ідэй, і інш.) і «паліятыў» (паўмера).

Праілюструю сказанае развагамі АП з нагоды пераабсталявання малочных фермаў у малочныя комплексы, патрэба ў якім ідзе «ад жыцця»: *«Нас жизнь заставит. Мы завтра будем работать по правилам ВТО. Вы что хотите сказать, что мы отгородимся от них? Нет»*.

Пагадзіцеся, цалкам разумная ацэнка праблемы, але якія сродкі рэалізацыі? Яны традыцыйныя для чалавека савецкай ментальнасці: *«По полям будут ходить губернаторы, за методику (доения) ответственны министры. А вы (вице-премьер Михаил Русый) должны заняться контролем этих процессов и торговлей»*.

Што тут можна дадаць?! Беларуская мадэль — гэта ўлік і кантроль, памножаны на хаджэнне губернатараў па палях.

МЕРКАВАННЕ

# «ДАЖЫНКІ» ПРЫНОСЯЦЬ ЦЫВІЛІЗАЦЫЮ?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Напярэдадні «Дажынак–2012» група энтузіястаў пры «Лятучым універсітэце» прэзентавала вынікі свайго незвычайнага даследавання — паўгода эксперыментатары аналізавалі, як фестываль «Дажынкі» ўплывае на ідэнтычнасць гарадоў.**



Пачынаючы з 1996 года «свята ўраджаю» праводзілася ў 15-ці беларускіх гарадах. Праўда, праз абмежаваную колькасць удзельнікаў, даследчыкі асабіста наведалі толькі 6 гарадоў (па адным з вобласці) — гэта Кобрын, Бабруйск, Ворша, Ваўкавыск, Маладзечна ды Мазыр. Інфармацыю пра іншыя «дажынкавыя» гарады энтузіясты атрымалі з мясцовай прэсы — аналізавалі ўсе публікацыі, прысвечаныя фестывалю і надрукаваныя ў год «Дажынак».

Вынікамі сваіх назіранняў даследчыкі падзяліліся падчас адмысловага круглага стала, які прайшоў у адной са сталічных кавярняў. Цікавай заўвагай стала тое, што насуперак распаўсюджанаму меркаванню — маўляў, «Дажынкі» былі задуманыя для аднаўлення ўсходняй Беларусі, — фестываль распачаўся на захадзе краіны. Даследчыкі выдзелілі «дажынкавыя колы», якіх ужо прайшло два, і цяпер адбываецца трэцяе: Брэсцкая вобласць — Гродзенская — Мінская — Магілёўская — Гомельская — Віцебская. Гэтым годам «Дажынкі» пройдуць у Горках (Магілёўская вобласць), а ў 2013 годзе камбайнераў, чакаецца, прыме Гомель.

Эксперыментатары вызначылі «дажынкавы» набор шчасця — тыя аб'екты, якія былі ці збудаваныя, ці аднаўленыя падчас «Дажынак» ва ўсіх гарадах. Гэты набор ахоплівае амфітэатр, пешую зону (вуліцы), спартовы палац, набярэжную ды фантан. Найвялікшым шчасцем апытаныя людзі назвалі, на дзіва, не шырока рэкламаваныя спартовыя комплексы, а новую вулічную плітку. Гістарычныя пабудовы не ўвайшлі ў пералік найбольш каштоўнага для грамадзян. Мажліва, гэта і сталася прычынай слабага пратэсту людзей супраць разбурэння гістарычнай забудовы — адвечнай праблемы «Дажынак». Удзельнік экспедыцыі Андрэй Ралёнак распавёў цікавостку — многія жыхары старых дамоў у цэнтры гораду, што быццам бы замінalі падрыхтоўцы да «Дажынак», выступалі супраць іх зносу. Аднак зусім не з матываў патрыятызму — камусьці не хацелася пераязджаць у спальныя раёны, кагосьці не задавальняў метраж новых прапанаваных кватэр.

Госць круглага стала мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі прапанаваў некалькі варыянтаў змяншэння шкоды, што наносяць гістарычнай спадчыне «Дажынкі»: «Па-першае, трэба за некалькі год папярэджваць, у якіх гарадах адбудзецца гэты фестываль. Каб людзі не былі вымушаныя за пару месяцаў на гарачую руку нешта ўтварыць у сваім гарадку, а маглі загадзя распрацаваць план, размеркаваць бюджэт, у тым ліку і на аднаўленне гістарычных пабудоваў. Па-другое, шмат вызначаюць мясцовыя кіраўнікі. Калі начальства паходзіць з гэтай мясціны, мае карані адсюль, наўрад ці яно будзе знішчаць гісторыю свайго мястэчка. Ну і, па-трэцяе, часам гарады папросту не здольны асвойваць усе тыя грошы, якія ім паступаюць. Меншы бюджэт — меншы негатыў. Калі рашэнні прадуманыя, то ад іх ёсць карысць — як мы бачым, напрыклад, у Воршы менавіта дзякуючы «Дажынкам» адбудавалі цудоўны кляштар у цэнтры гораду, які раней выступаў у якасці прытона для п'янтосаў і наркаманаў».

У адказ на іранічнае пытанне «Новага Часу» пра мэтазгоднасць падобнага аналізу — маўляў, «Дажынкі» ўспрымаюцца грамадствам несур'ёзна, выключна як аб'ект для анекдотаў — кіраўнік даследчай групы, гісторык Сцяпан Стурэйка назваў такое меркаванне стэрэатыпам: «Так лічаць толькі ў Мінску. У невялікіх гарадках людзі нават адказваць на нашыя пытанні не вельмі хацелі — у іх складалася адчуванне, што мы сваімі роспытамі можам нейк нашкодзіць, азмрочыць іх светлыя ўражанні ад «Дажынак».

Паводле спадара Стурэйкі, гэты фестываль нельга ацэньваць адназначна: «Дажынкі» прыводзяць хоць да якой-ніякой цывілізацыі. Ці ж гэта кепска, што гатэль, дзе была адна прыбіральня на паверх, наблізіўся да еўрапейскага ўзроўню? Ці кепска, калі паклалі плітку там, дзе раней не тое, што пліткі, нават асфальту ніколі не было? Бясплатна паставілі шклопакеты ў панельных дамах — для людзей гэта шчасце! Канешне, азмрочвае гэтыя пазітыўныя моманты стаўленне да спадчыны. Дакладней, гэтага стаўлення зусім няма. Гістарычныя будынкі не ўспрымаюцца мясцовымі ўладамі як спадчына, але як звычайная нерухомасць. І калі, на думку чыноўнікаў, гэтую нерухомасць трэба пафарбаваць ці патынкаваць — яе фарбуюць ды тынкуюць, калі яна замінае будаўніцтву новай дарогі — яе руйнуюць…»

Здолеў знайсці пазітыўны складнік у «Дажынках» і Сяргей Харэўскі: «Цьмяныя траты дзяржаўных грошаў, разбурэнне гістарычных пабудоваў, ідэалагізаванасць — так, гэта ўсё прысутнічае. Але ж беларусы ўзгадалі сваё старадаўняе свята, якое было забыта ў часіны камуністаў. Спадзяюся, з часам з ідэалагічнага дзяржаўнага мерапрыемства «Дажынкі» пераўтворацца ў сапраўднае сялянскае свята ўраджаю».



КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# ЗВЫКЛАЯ ГУЛЬНЯ



**Як паведамляе Белстат, за тры тыдні жніўня спажывецкія кошты павысіліся адносна ліпеня на 2,2%. У агульным, як кажуць, і цэлым.**

Улады працягваюць звыклую гульню ў сацыяльна справядлівае рэгуляванне. Такім спосабам яны падкрэсліваюць немагчымасць аддаць спажывецкі гандаль на патрэбу ненажэрнага рынка, дзе кожны купец-прадавец падыме кошты да касмічных вышыняў.

Інакш кажучы, спажыўцу прапануецца простая для паўсядзённых разважанняў, але вельмі эфектыўная ў сэнсе маніпуляцыйнай прапаганды рэч — а што б вы, даражэнькія, без нас рабілі.

Нават у мінулым годзе, калі цэны падскочылі, як той спушчаны з ланцуга сабака, асобныя ўплывовыя ўрадаўцы заяўлялі, што ніякага стыхійнага абвалу коштаў не будзе. Маўляў, яны спецыяльна пра гэта клапоцяцца.

Нехта нават у такія мудрагелістыя «прапазіцыі» верыць, хоць яны насамрэч ёсць звыклай часткай усё той жа гульні, па правілах якой належыць лічыць чыноўніцтва абаронцамі людзей.

На самай жа справе ўсё адначасова і больш проста, і больш складана. Агулам падобна тое да гонак прусакоў, што некалі ладзілі ў Турэччыне ўшчэнт збяднелыя белыя эмігранты. Быццам бы ўсе бягуць у аднолькавых умовах, але заўжды перамагае Янычар. Так і пры нашым рэгуляванні. Усе ведаюць, што кошты раслі і будуць расці надалей. А вось у якой паслядоўнасці, гэта вызначыць цяжка. Прыкладам, калі ў 2008 годзе ў сувязі з упарадкаваннем ільгот пенсіянерам пазбавілі права таннага праезду ў грамадскім транспарце, спачатку пасажырапаток значна скараціўся і выдаткі транспартнікаў сталі расці з нязвыклай хуткасцю. Усе чакалі адэкватнага падвышэння коштаў за праезд, але ці не два гады ўрад не адважваўся пайсці на гэтую, сапраўды, непапулярную меру, баючыся, каб простая незадаволенасць пенсіянераў не прайшла рамкі, за якімі пачынаюцца адкрытыя пратэсты.



Для вытворцаў тавараў і паслуг рэгуляванне коштаў і тарыфаў мае вынік у змяненні прыбытковасці, ад чаго наўпрост залежыць нават лёс прадпрыемстваў. Таму яны звыкла становяцца ў чаргу да аддзелаў выканкамаў і міністэрстваў, якія займаюцца рэгуляваннем цэнаў па галіновай або тэрытарыяльнай прыналежнасці прадпрыемстваў і складаюць паперы з пералікам аб'ектыўных фактараў, якія падзейнічалі на рост сабекошту вытворчасці. Хто больш пакажа і дакажа, той мае шанец атрымаць прыярытэтнае права падвысіць кошт сваёй прадукцыі. Але існуюць тавары, продаж якіх займае стабільна вялікае месца ў структуры рознічнага гандлю, больш-менш незалежна ад таго, колькі яны каштуюць. Перш-наперш, гэта алкагольныя напоі (15–17% ад усяго таваразвароту) і тытунёвыя вырабы. Ад продажу іх урад гарантавана атрымоўвае акцызныя падаткі, з якіх разлічваецца па сваіх апаратыўных абавязках. А пакольні алкаголь і тытунь шмат хто ацэньвае як выключна шкодныя для грамадства, то кошты на іх падвышаюцца значна і рэгулярна. Няма нічога дзіўнага, што ў жніўні кошты на гарэлку павысіліся адразу на 10,7%.

Пасля таго, як урад зрабіў чарговы ўнёсак у барацьбу з п'янствам, ён быццам бы атрымаў больш маральных падстаў для пераацэнкі істотных кампанентаў «спажывецкага кошыка»: птушынае мяса падаражэла на 7,5%, мука пшанічная — на 5,6%, хлеб — на 5,2%, рыба жывая — на 3,8%, каўбаса паўвэнджаная, малако і малочныя прадукты, маргарын — на 2,2–2,5%.

Не кожны дзень людзі гарэлку п'юць, але ўсё астатняе, за выключэннем жывога карпа, складае асартымент паўсядзённага ўжытку прадстаўнікоў кожнай сацыяльнай групы.

Як сказаў бы мараліст, справа сумлення кожнага пагадзіцца з агульнай высновай Белстата наконт тэмпаў інфляцыі ці не. Але пры гэтым трэба яшчэ ўлічыць, што тэхнічнае абслугоўванне кватэр падаражэла на 26,6%, паслугі энергазабеспячэння — на 23,7%, сувязі — на 16,8%, чыгункі ў міжнародных зносінах — на 11,2%, побытавыя паслугі — на 3,4%.

Зусім не прадметы раскошы, не нейкі там гламурны сервіс, а паслугі нават звычайнай пральні па падвышэнні кошту перавысілі агульны індэкс спажывецкіх цэн. Трэба ж таксама ўлічыць, што летняе цяпло хутка зменіцца на холад, ад чаго на небывала высокі ўзровень падымуцца кошты на садавіну і гароднiну, якія ў жніўні істотна зменшыліся адносна ліпеня, але гэтага не хапіла нават для традыцыйнага сезоннага падзення коштаў.

Чаму? Ці то сапраўды інфляцыйны патэнцыял эканомікі перавышае магчымасці ўрада, ці з іншай нагоды? Паспрабуем адказаць на гэта пытанне, памятаючы, што адказ не можа быць вычарпальным па вызначэнні. Але з драбніц, якія ўтрымліваюць, што называецца, ісціну факта, можна скласці дастаткова дакладную агульную карціну. Прыкладам, сёлета яблыкаў урадзілася як ніколі. Таму спажывецкая кааперацыя прымае іх у насельніцтва па 300 рублёў за кіло. Але ў рознічным гандлі яблыкі патаннелі толькі на 13,9%. Меней нават, чым бананы.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# АПРАЎДАЦЬ ЛЕЙТЭНАНТА САФАРАВА

Алег НОВІКАЎ



**Азербайджанскі афіцыёз намагаецца апраўдаць афіцэра, які забіў сякерай армянскага калегу.**

31 жніўня інтэрнэт-парталы абляцела навіна: Венгрыя экстрадавала азербайджанскага лейтэнанта Раміля Сафарава, якога раней мясцовы суд прысудзіў да пажыццёвага зняволення за забойства на тэрыторыі Венгрыі армянскага афіцэра. У бакінскім аэрапорце Сафарава азнаёмілі з указам Ільхама Аліева, які памілаваў афіцэра. Акрамя гэтага, вайскоўцу было прысвоена званне маёра, а таксама выплачана грашовая кампенсацыя за ўвесь час, які ён знаходзіўся ў венгерскай турме. А Міністэрства абароны выдала яму ордэр на кватэру.

Увогуле, усё было ў рамках міжнароднага права. Паводле артыкулаў Еўрапейскай канвенцыі пра перадачу асуджаных, любая дзяржава-ўдзельніца гэтай дамовы можа памілаваць асобу, якую экстрадавалі, у адпаведнасці са сваёй канстытуцыяй, прававымі актамі, ужываць у дачыненні да яго амністыю ці скарачаць тэрмін пакарання.

Аднак у справе Сафарава быў адзін маральны аспект. Сафараў не проста забіў армянскага афіцэра, а засек сякерай, калі той спаў. Забойца здзейсніў не меней за 16 удараў, і ў выніку амаль адсек ахвяры галаву за тое, што той быццам «абразіў сцяг Азербайджана».

Той факт, што Арменія, паводле меркавання азербайджанцаў, акупуе 20 працэнтаў тэрыторыі Азербайджану і нясе адказнасць за этнічныя пагромы, не дае права забіваць вось такім чынам. Добрай ілюстрацыяй гэтаму служыць форум папулярнага парталу tut.by, дзе абмяркоўвалі амністыю Сафарава. Напрыклад, карыстальнік you211 піша: «У мірны час забіў спячага афіцэра. У Аліева такія лічацца героямі?» Іншы карыстальнік artiom_kh адзначае: «Сярод азербайджанцаў вельмі шмат добрых людзей, а не такіх, як гэта ***** Сафараў, але, на жаль, іх не відаць за радасным выццём тых, хто цешыцца забойству спячага чалавека».

У дадатак гарачы прыём Сафарава на радзіме, безумоўна, спрыяў росту эскалацыі ў рэгіёне. Арменія разарвала адносіны з Будапештам. Армянскія тэрарысты пагражаюць азербайджанскім дыпламатам. Еўрасаюз і ЗША крытыкуюць Баку, а той кажа пра замах на свой суверэнітэт.

Можна не сумнявацца, што імідж Азербайджана такая гісторыя не палепшыла. Адпаведна, гэта прымусіла прапагандыстаў з берагоў Каспія дадаць аргументаў у абарону ўказу Аліева пра амністыю Сафарава.

Напрыклад, віцэ-спікер парламента Азербайджана Мурадава лічыць, што Сафараў цалкам расплаціўся за свой учынак. «Раміль Сафараў правёў больш васьмі гадоў у зняволенні, і, можна сказаць, што, калі за зробленае злачынства ён павінен быў панесці пакаранне, здзейсніў гэта», — сказала віцэ-спікер.

Тое, што Мурадава прызнае віну Сафарава, вельмі незвычайна для азербайджанскага палітыкуму. Іншыя лічаць, што Сафараў абсалютна не вінаваты, паколькі папросту хацеў адпомсціць за забітых родных, прычым тымі ж метадамі, якімі дзейнічалі забойцы.

«Армяне акупавалі родны Джэбраільскі раён Сафарава 25 жніўня 1993 года. У гэты дзень яму споўнілася 16 гадоў. У выніку нападу армян на мірных жыхароў Р. Сафараў страціў частку сваіх блізкіх сваякоў, якіх забілі сякерамі. Можна ўявіць эмацыйны стан чалавека, які перажыў усе гэтыя трагедыі ў дзяцінстве, пасля абраз армянскіх афіцэраў. «Я вырашыў іх (армян) забіць, гэта значыць адсекчы ім галовы (раніцай), сапраўды такім жа метадам, як падчас Карабахскай вайны армяне забівалі мірных грамадзян Азербайджана», — казаў ён на судзе». Гэта распавядае загадчык Аддзела па працы з праваахоўнымі органамі Адміністрацыі прэзідэнта Азербайджанскай Рэспублікі Алескераў.

Рафік Аліеў, доктар філасофскіх навук, увогуле прапануе не разглядаць масакру Сафарава праз прызму маралі. «Ці варта імкнуцца ставіць учынак нашага суайчынніка, афіцэра нашага войска Раміля Сафарава на строгія шалі маралі і амаральнасці! Гэта зусім не заклік да татальнага адмаўлення ўсякай маралі, калі пытанне стаіць перад намі, і мы павінны зрабіць свой выбар! (…) З людзьмі, якія паступаюць са мной наўмысна адкрыта амаральна, я не магу прытрымлівацца строгіх рамак агульнай маралі. Я заўсёды нагадваю ім, што іх учынак амаральны па сутнасці, і пацвярджаю свае словы практычнымі дзеяннямі. Наша рэлігія таксама прыме такі варыянт. Яна патрабуе ад нас адэкватнага адказу агрэсару, які наўрад ці можа быць маральным. Гэта мая цвёрдая пазіцыя, і я гатовы абараняць яе на любым узроўні, у любой аўдыторыі, калі знойдуцца смелыя, гатовыя прыняць мой выклік. Падстаўляць адну, а потым іншую шчаку — непавага да веры».

Важную ролю ў гэтай аргументацыі на карысць амністыі Сафарава гуляе судовы прэцэдэнт Тэйлерана. «15 сакавіка 1921 года ў Берліне ў выніку замаху быў забіты Мехмет Талаат-паша. Забойцам апынуўся армянін Сагамон Тэйлеран, які пасля кароткага судовага разгляду атрымаў апраўдальны прысуд. Выносячы такое рашэнне, суд спаслаўся на тое, што Тэйлеран быў у стане афекту, атрымаў душэўнае ўзрушэнне з-за «генацыду армян» і менавіта ў такім стане і вырашыў забіць Талаат -пашу. Раміль Сафараў таксама быў публічна абражаны з боку Гургена Маркарана (армянскі афіцэр) і таму вырашыў забіць яго. Так што Азербайджан, хоць бы спасылаючыся на гэты прэцэдэнт, меў поўнае права патрабаваць ад венгерскага правасуддзя ўлічыць псіхалагічны стан азербайджанскага вайскоўца і перагледзець прысуд», — піша бакінскае выданне Day.az

Калі ўжо гаворка пра гісторыю, то не прайшла азербайджанская прэса і міма іншай скандальнай справы: «У 2001 годзе Францыя памілавала і экстрадавала ў Арменію Варужана Гарабедзяна, які арганізаваў выбух у аэрапорце Арлі 15 ліпеня 1983 года, у выніку якога загінулі некалькі чалавек. У Ерэване тэрарыста асабіста сустракаў прэм'ер-міністр Арменіі, які выказаў радасць з нагоды вызвалення Гарабедзяна, а незадоўга да гэтага мэр Ерэвана Роберт Назаран абяцаў забяспечыць злачынца працай і жыллём» (Day.az).

Вось такія аргументы азербайджанскага боку, якія павінны пераканаць, што даваць амністыю Сафараву Аліеў меў поўнае маральнае права. Цяжка сказаць, наколькі ўсе гэтыя аргументы змогуць даць адказ на пытанне, якое на тым жа форуме задаў блогер: «Ці лічыцца ў Азербайджане злачынствам наўмыснае забойства няўзброенага чалавека, які не нападае на цябе?»

Відавочна, з усёй гэтай гісторыі вынікае наступнае: агрэсіўны нацыяналізм у любой нацыянальнай афарбоўцы — страшная з'ява. Па-другое, вызваленне Раміля Сафарава — рашучы ход для афіцыйнага Баку, які ўпершыню ў гісторыі так яўна ігнаруе міжнародную крытыку. Палітычны эфект такой гульні можа быць вельмі небяспечным, паколькі здольны падштурхнуць Баку зноў паставіць міжнародную супольнасць перад фактам, напрыклад, у карабахскім пытанні.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ДАМІР МУХЕТДЗІНАЎ



Першы намеснік старшыні Духоўнага ўпраўлення мусульман (ДУМ) еўрапейскай часткі Расіі прапанаваў сенсацыйнае тлумачэнне прычын інтарэсу ісламскай моладзі ў Расіі да тэорый радыкальнага ісламу. Па яго словах, рост прыхільнікаў радыкальных плыняў ісламу ў Расіі звязаны з тым, што школьнае навучанне шмат дзе вядзецца на рускай мове. Справа ў тым, што, на думку святара, руская мова на Каўказе — гэта мова касмапалітаў. Таму рускамоўныя, адарваныя ад нацыянальнай культуры каўказцы, лёгка становяцца адэптамі вахабітаў. «Калі мы кажам пра традыцыйны іслам, то мы павінны разумець, што ён у Расійскай імперыі заўсёды развіваўся ў рамках нацыянальнай мовы. Такая рэч, як вахабізм, у свеце існуе 300 гадоў. Мы штосьці не памятаем у гісторыі Расійскай імперыі смяротнікаў і тэрарыстаў з боку мусульман. Толькі пасля таго, як мусульман адарвалі ад традыцыйнай мовы, яны сталі саўдзельнікамі бандфармаванняў», — падкрэсліў супрацоўнік ДУМ. У якасці прыкладу ён прывёў Махачкалу. «Махачкала стала горадам, дзе амаль не засталося рускіх, але ўсе прадметы і нават літаратура Дагестана выкладаюцца па-руску, і гэта спараджае смяротніц-самазабойцаў», — адзначыў Мухетдзінаў.

### ЯКАБ ЗУМА




Прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) і старшыня кіруючай у краіне партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC) апынуўся ў цэнтры сэксуальнага скандалу. У музеі Кейптауна выстаўлена вялікае пано, на якім адлюстраваны гарант, апранутым у нацыянальны касцюм народа зулу. Цэнтральнае месца ў кампазіцыі карціны, якая называецца «Зброя масавага знішчэння», займае палавы орган прэзідэнта. ANC ужо заявіў, што выява з'яўляецца замахам на гонар іх лідара. Сябры кангрэсу лічаць, што карціна скандальная таксама і з-за сямейнага статуса Якаба Зумы. Апошні практыкуе палігамію — у яго 4 жонкі, ад якіх ён мае 21 дзіця. Увесь гэты гарэм і дзіцячы сад Зумы, як лічаць у ANC, таксама сталі ахвярай мастацкай правакацыі Ауанда Мабулу (Ayanda Mabulu) — аўтара «Зброі масавага знішчэння». Сам Ауанда кажа, што ён заўсёды быў прыхільнікам ANC, а сваім творам проста хацеў выказаць пратэст супраць карупцыі, якая пранікла ў кіраўніцтва руху. Пакуль мастак сварыўся з палітыкамі, яго твор набыў нейкі нямецкі калекцыянер за 7 000 еўра. Застаецца згадаць, што тры гады таму той жа мастак ужо прадставіў на суд публікі партрэт аголенага прэзідэнта. Аднак тады ніякага скандалу не здарылася, і карціну ніхто не набыў.

### КРЫСЦІНА КІРШНЕР



Прэзідэнту Аргенціны ад руху пераністаў засталося яшчэ тры гады знаходзіцца на пасадзе кіраўніка краіны. Між тым, некаторыя фракцыі яе прыхільнікаў пачалі дэбаты наконт таго, каб вылучыць Крысціну на трэці тэрмін. У сталіцы Аргенціны прайшла вялікая канферэнцыя на гэтую тэму з удзелам шматлікіх губернатараў, мэраў, партыйных апаратчыкаў. Праблема, аднак, у тым, што дзеючая канстытуцыя забараняе адной і той жа асобе займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны. Каб змяніць асноўны закон, патрэбна згода двух трацін дэпутатаў і сенатараў. Пасля склікаецца спецыяльная канстытуцыйная асамблея, якая ўносіць папраўкі ў тэкст мясцовай Carta Magna. Зараз перaністы маюць большасць у абедзвюх палатах, аднак іх недастаткова, каб запусціць працэс рэформаў. Таму вырашальнымі стануць прызначаныя на наступны год выбары ў парламент. Па падліках перaністаў, ім патрэбна атрымаць у выніку галасавання больш за 45 працэнтаў. Эксперты не выключаюць у сувязі з гэтым новы хітры трук адміністрацыі Кіршнер — яна можа прапанаваць закон пра скарачэнне платы за навучанне ў ВНУ і адначасова дазволіць галасаваць з 16 гадоў, што забяспечыць ёй дадатковыя галасы. Усе партыі апазіцыі ўжо выказаліся супраць праекту змену канстытуцыі.

СУАЙЧЫННІК

# ЁН ЛЮБІЎ НАС ЯК РОДНЫХ ДЗЯЦЕЙ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Цяпер у вёсцы Дзярэчын Зэльвенскага раёна я бываю вельмі рэдка. А калі праязджаю праз гэта мястэчка і гляджу на вялікі пусты дом Пятра Марціноўскага, то не магу супакоіцца — сэрца шчыміць, сумна да болю ад таго, што мяне больш ніколі не сустрэне гэты тактоўны, культурны, адукаваны і інтэлігентны чалавек.**



Землякі Уладзімір Плюта, Пятро Марціноўскі, Уладзімір Захарка

Яго не стала 1 лютага 2006 года. Але здаецца, што Пятро Мікалаевіч жыве і сёння, зараз выйдзе на панадворак, сустрэне, абдыме, мы сядзем у яго «Жыгулі» і паедзем у вандроўку па роднай Гродзеншчыне. Ён нас, маладых, любіў як родных дзяцей, пра нас пісаў, друкаваў нашы творы на старонках зэльвенскай раёнкі, прапагандаваў нашу творчасць, арганізоўваў вечары і сустрэчы. Гэта быў чалавек апантаны і ўлюбёны ў жыццё, у літаратуру і ў родную Бацькаўшчыну.

Дом Пятра Мікалаевіча Марціноўскага ў Дзярэчыне прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі жартоўна называлі Домам літаратараў. Калі б ні прыехаў у старажытны Дзярэчын — ноччу ці днём, у святы ці ў гарачы будзень — з усмешкай і з бацькоўскай цеплынёй Пятро Мікалаевіч заўсёды запрашаў у сваю светлую і прасторную хату. І не проста запрашаў, а смачна частаваў кумпячком ці вэнджанай кілбаскай і абавязкова наліваў самаробнага вінаграднага віна, якому мы далі назву «Marcini» (ад прозвішча Марціноўскага). І за гэтым частаваннем гадзінамі, а то і суткамі лілася гутарка пра лёс роднай мовы, пра літаратуру, гісторыю і пра Беларусь наогул.

У доме Пятра Марціноўскага пабывала шмат вядомых пісьменнікаў, мастакоў, журналістаў, музыкантаў. Але часцей за ўсё ў Дзярэчын прыязджалі землякі — Павел Сцяцко, Міхась Скобла, Юрка Голуб, Уладзімір Ягоўдзік, Валянцін Дубатоўка. А ў прыватнай бібліятэцы гаспадара засталіся кнігі з аўтографамі Максіма Танка, Янкі Брыля, Ніла Гілевіча, Дануты Бічэль, Сяргея Законнікава — ці не паловы прадстаўнікоў Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Пра свае сустрэчы, знаёмствы і гутаркі Пётр Мікалаевіч планаваў напісаць і выдаць кнігу. І верылася, што яму гэта ўдасца... Не ўдалося, не паспеў. Бог яму адмераў 74 гады.

Сам Пятро Марціноўскі быў родам з вёскі Катчыно Мастоўскага раёна, хаця большая частка жыцця была пражытая ў Дзярэчыне — у малым Версалі, як назваў гэту вёску некалі беларускі эмігрант з ЗША Ян Пятроўскі.

Бацькі Пятра Марціноўскага былі звычайнымі сялянамі. Маці непісьменная, а бацька — самы адукаваны чалавек на вёсцы. Ён меў прыгожы почырк, добра ведаў беларускую, рускую і польскую мовы. А яшчэ Мікола Марціноўскі



Пятро Марціноўскі

быў майстрам на ўсе рукі, але найперш — вясковым рацыяналізатарам. Сам зрабіў тры веялкі (у нас называюць іх «архі») для ачысткі насення ад мякіны пасля абмалоту. Змайстраваў станок для вырабу прасяной крупы і шмат чаго іншага. «А яшчэ мой бацька, — згадаў неяк Пятро Марціноўскі, — пастаянна выпісваў газеты і часопісы. У нашым доме збіраліся вяскоўцы, дзе за газавай лямпай бацька чытаў людзям пра тое, што адбывалася ў свеце. А мы з братам, седзячы за сталом, рыхтавалі ўрокі. І быў вельмі задаволены, калі чытаць газеты давяралі і мне. Гэта было ў канцы саракавых гадоў мінулага стагоддзя».

У 1944 годзе Пётр Марціноўскі паступіў у пяты клас дзярэчынскай сярэдняй школы. Пачаў пісаць замалёўкі, вершы, інфармацыйныя паведамленні ў Зэльвенскую раённую газету. У школьныя гады захапляўся яшчэ музыкай. Нядрэнна іграў на мандаліне. Нават марыў з адной дзяўчынай паступаць у кансерваторыю. Дый да апошніх дзён жыцця Пятро Мікалаевіч паэзію і музыку любіў аднолькава. «Яны нeяк узвышаюць чалавека духоўна, робяць яго міласэрным, гуманным і лепшым», — казаў Марціноўскі.

Пасля службы ў войску мой зямляк вярнуўся на радзіму і пачаў працаваць настаўнікам у дзярэчынскай сярэдняй школе. Работу ў школе сумяшчаў з завочнай вучобай у Гродзенскім педінстытуце. А з 1969 года і да пенсіі працаваў у гэтай школе намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце. Пра стыль работы і пра метады навучання ў дзярэчынскай СШ напісаў і выдаў брашуру «У нагу з часам» (1986).

Першыя селькораўскія карэспандэнцыі Пятра Марціноўскага былі надрукаваны ў пачатку 1950-х гадоў у Зэльвенскай раённай газеце. Пасля матэрыялы на самыя розныя тэмы з'яўляліся на старонках газет «Звязда», «Гродзенская праўда», «Літаратура і мастацтва», «Наша слова» і ў многіх іншых рэспубліканскіх выданнях. Усё свядомае жыццё дзярэчынскага настаўніка хвалявалі пытанні адраджэння беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адсюль вынікала і тэматыка яго публікацый. Самымі светлымі старонкамі ў жыцці Пятра Марціноўскага былі сустрэчы і шчырае сяброўства з беларускай паэткай Ларысай Геніюш. З ёй ён пазнаёміўся ў канцы 1950-х гадоў, пасля таго, як паэтка была рэабілітавана і вярнулася ў 1956 годзе ў Зэльву. «Гэта была шчырая, добразычлівая і простая беларуская жанчына. З трывогай і надзеяй думала яна пра лёс роднай Беларусі, паэтка верыла ў яе адраджэнне, у росквіт нацыянальнай культуры і мовы. Прыкладам бескарыснага служэння людзям з'яўляецца яе паэзія, яе жыццёвы подзвіг. Мне пашчасціла быць першым чытачом многіх вершаў, якія Ларыса Антонаўна з хваляваннем і гордасцю перш-наперш прачытвала сама», — расказваў Марціноўскі.

У 2002 годзе ў Слоніме выйшла з друку кніга ўспамінаў пра Ларысу Геніюш Пятра Марціноўскага «Наша Лорка». Я быў рэдактарам гэтай кнігі і напісаў да яе ўступнае слоўца.

Ларыса Антонаўна Геніюш часта гасціла ў Марціноўскіх у Дзярэчыне, дый яны неаднаразова наведвалі хату Геніюшаў у Зэльве. Кніга «Наша Лорка» пачынаецца з успамінаў пра тое, як аўтар кнігі, Алесь Траяноўскі і Ларыса Геніюш ездзілі на матацыкле ў Гудзевічы да Алеся Белакоза, а таксама на радзіму паэткі — у засценак Жлобаўцы і ў вёску Палаўкі, што на Ваўкавышчыне. Там землякі Ларысы Геніюш ласкава называлі яе «наша Лорка»: «Наша Лорка прыехала. Прыходзьце да нас...»

Пётр Марціноўскі цікава распавядае ў кнізе і пра тое, як Ларыса Геніюш напісала і чытала яму верш «Зубры», як яна па-мацярынску клапацілася пра Уладзіміра Караткевіча, якім апантаным кнігалюбам быў Янка Геніюш.

У кнізе «Наша Лорка» змешчаны таксама тэксты пісем і паштовак Ларысы Геніюш да Марціноўскіх, а таксама ўрыўкі з «Незакончанай паэмы» паэткі. Паэма цалкам нідзе не друкавалася, яна прысвечана рэпрэсіям на Беларусі ў 1930–1950-х гадах, падчас якіх шмат загінула беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў:

*«На якой мове з табой гаварыць,*
*Знаеш расейскую,*
*Можа выклікаць перакладчыка,*
*Можа па-чэшску?»*
*Гляджу адважна, не, не баюся:*
*«Не знаю рускай,*
*Вы жа міністр на Беларусі*
*Дык гаварыце, як тут належыць,*
*Па-беларуску!»*
*«Не, па-расейску ты загаворыш»,—*
*Грыміць Цанава.*
*Мовы ён нашай знаці — не знае,*
*Ад злосці шэры.*
*Біч для народу, скула ліхая,*
*Піяўка на сэрцы!*
*Бесіцца люта і мне жадае.*
*Суддзі — не суддзі,*
*Быццам не людзі,*
*Скалы сядзяць:*
*«За беларускасць няхай вам будзе*
*Лет 25!»...*

Акрамя малавядомай паэмы ў кнізе змешчаны вершы гродзенскіх паэтаў, прысвечаныя Ларысе Геніюш, — Юркі Голуба, Дануты Бічэль, Міхася Скоблы, Уладзіміра Мазго, Ірыны Навуменкі, Ірыны Войткі і іншых аўтараў. У кнізе надрукаваны таксама і рэдкія фотаздымкі.

На працягу 25 гадоў Пётр Марціноўскі кіраваў зэльвенскім раённым літаб'яднаннем «Зоры над Зальвянкай». Сам рыхтаваў вершы да друку, наладжваў літаратурныя сустрэчы, вечарыны. Па запрашэнню літаб'яднання на Зэльвеншчыне пабывалі пісьменнікі Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Алег Лойка, Алесь Асіпенка, Мікола Гроднеў, Данута Бічэль, Юрка Голуб, Міхась Скобла, Уладзімір Мазго... Усіх і не пералічыць.

Плённа супрацоўнічаў Пётр Мікалаевіч з мясцовым кампазітарам Уладзімірам Плютам. Вось што ўспамінаў пра гэта сам Пётр Мікалаевіч: «Зазваніў тэлефон. Бяру трубку і пазнаю голас калегі па рабоце, вядомага дзярэчынскага музыкі Уладзіміра Плюты. Прывітаўшыся, ён адразу прапануе паслухаць па тэлефоне мелодыю акардэона. Яна сапраўды мне спадабалася. Але да гэтай песні не хапала слоў, і Уладзімір Міхайлавіч прапанаваў мне напісаць іх. Так нарадзілася ў нас сумесная песня: «Любы мой»:

*Замяла завея нашыя сляды,*
*А я ўсё кахаю, як было заўжды.*
*Ноччу мне не спіцца — страціла спакой,*
*Дзе ж ты, адгукніся, мілы мой.*
*Навокал лютуе матухна зіма,*
*Выйду на дарогу, а цябе няма.*
*Стынуць ногі, рукі, у сэрцы неспакой.*
*Можа, ты адчуеш, мілы мой.*
*Сум і адзіноту выпʼю ўсю да дна,*
*Песню, што я склала, запяю адна.*
*І калі пачуеш, дома не сядзі.*
*Я цябе чакаю — дык прыйдзі.*
*Замяла завея нашыя сляды,*
*А я ўсё кахаю, як было заўжды.*
*Ноччу мне не спіцца — страціла спакой,*
*Дзе ж ты, адгукніся, мілы мой.*

Аўтар музыкі Уладзімір Плюта — карэнны жыхар вёскі Дзярэчын. Тут прайшло яго дзяцінства, школьныя і юнацкія гады. Працаваў у дзярэчынскай школе бібліятэкарам, пасля настаўнікам спеваў і музыкі, а з 1978 года аж да пенсіі — дырэктарам дзярэчынскай музычнай школы.

На працягу многіх гадоў Уладзімір Плюта ўзначальваў харавыя калектывы дзярэчынскай школы. Падрыхтаваныя ім калектывы шмат разоў выступалі на рэспубліканскіх і абласных аглядах мастацкай самадзейнасці, за што ўзнагароджваліся дыпломамі і падарункамі.

Дарэчы, Пётр Марціноўскі і Уладзімір Плюта, выйшаўшы на пенсію, стварылі творчы дуэт, пладамі якога сталі 18 песень, што гучаць не толькі на сельскіх, але і на раённых сцэнах.

Перад смерцю ён падрыхтаваў добры том вершаў зэльвенскіх паэтаў, амаль дамовіўся з дзярэчынскімі фундатарамі і хацеў выдаць іх асобнаю кніжкай пад назвай «Зоры над Зальвянкай». Зноў не паспеў. Прайшоў год пасля яго смерці, а кніжка так і не выйшла з друку: няма грошай. А ён так хацеў патрымаць яе ў руках, парадаваць тых, каго ён чытаў, друкаваў на старонках зэльвенскай газеты «Праца», даваў дарогу ў літаратурнае жыццё. І толькі ў 2008 годзе ў Слонімскай друкарні «Зоры над Зальвянкай» пабачылі свет. Праўда, з кнігі выкінулі вершы Ларысы Геніюш і мой артыкул пра самога Пятра Марціноўскага. Выкінулі сённяшнія ідэолагі з Зэльвенскага райвыканкама...

Гэты цудоўны чалавек усё жыццё пражыў у глыбінцы, але ніколі не старэў душой, не заставаўся ўбаку ад тых падзей, якія адбываліся ў нашым паўсядзённым жыцці. 28 чэрвеня Пятру Марціноўскаму споўнілася б 80 гадоў.

**УСПАМІНЫ**

# ШКОЛЬНАЯ ПАРА. ПАЧАТКІ

**Арсень ЛІС**



**Працяг. Пачатак у №№32, 33**

«Родны край» для трэцяга класа пакінуў у душы гронку дзіцячых беларускіх вершыкаў: «Сіло», або «Добрыя дзеці» Алеся Гаруна, «Раніца» Міхася Чарота, «Пры скаціне» Янкі Купалы. Былі ў чытанцы Л. Гарэцкай, што «другая пасля лемантара кніга для чытання», так бы мовіць, творы на выраст для трэцякласнікаў. Напрыклад:

*Гэй, наперад, покі сэрца*
*Б'ецца, рвецца на прастор,*
*Годзе млеці ў паняверцы;*
*Гэй, да сонца! Гэй, да зор!*

Гэтыя Купалавы словы на той час у Заходняй Беларусі сталіся песняй, шырока кружылі ў народзе, будзячы дух супраціву, надзею.

І яшчэ, з першых маіх беларускіх чытанак — абедзвюх — надоўга запомніліся народныя казкі, з іх дасціпнай выдумкай, посмехам і павучаннем.

Падагульняючы згадкі пра першыя чытанкі, думаецца: з гадамі прыходзіш да ўсведамлення, што кнігі дзяцінства — частка самога твайго дзяцінства. Дзякуй ім. Паклон з пары, калі падагульняецца пражытае. Калі некалі такі, здавалася, далёкі бераг, зусім блізка. Але не радуе ды, па праўдзе сказаць, і не палохае яго блізкасць.

Былі ў маім маленстве яшчэ дзве памятныя кніжкі, дакладней, кніга і падшыўка дзіцячага часопіса «Заранка», пра якія і праз гады хораша, з удзячнасцю лёсу ўпамінаецца. Згадваючы яны, як цяпер кажуць, у кантэксце часу і месца чытання. Зялёны, у кардоннай вокладцы том Льва Талстога па-беларуску (пазней даведаўся імя яго перакладчыка Макара Краўцова) трапіў да мяне праз брата Геню з той жа Вільні. Браў я кніжку з сабою колькі разоў на пашу. У канцы Букараўскага поля, купленага бацькамі, быў кавалак няўдобіцы. Агараджэўшы дротам, бацька пусціў яго пад пашу. Пачатак пасьбішча быў адкрыты, накшталт палянкі. Далей, у бок рова, дзялянка панiжалася. Раслі там між купін нізкарослыя, каржакаватыя вольхі, трава пераважна жорсткая, падобная да асакі. Знайсці нейкі іншы ўжытак такому канцавому грунту — абярнуць у ворыва ці сенажаць не было разліку. Невялікае пасьбішча, клінам выходзячы да рова, давала хоць нейкі спажытак гаспадарцы: дзве каровы і конь не вельмі маглі зажыраваць на гэтай трацінe гектара, але трэба было нейк даваць рады ў гаспадарцы, небагатай на зямельны надзел.

Пры хатнім статку ў агароджы клопат мой быў невялікі. У шкоду мае падначаленне не лезлі. Пагрызшы траву, самі ўдаваліся да вады: клін пасьбішча краем выходзіў да рова. Я клаў на вялікі пляскаты камень з замшэлага граніту, які раскошна разлёгся на пачатку пасьбішчнай дзялянкі, кнігу і чытаў. Чытаў малыя апавяданні Талстога. Не сказаць, каб яны мяне паланілі, але запомніліся: знаць, нешта казалі малой душы. Хоць філасофія і мараль іх былі далекавата за межамі дзіцячага паняцця, але сюжэты запаміналіся: дзеі ў іх былі даступныя дзіцячаму ўяўленню. Да прыкладу, як той, што ляжаў у аснове апавядання «Бог праўду бачыць, ды не хутка скажа». А найболей узрушылі, хвалявалі прыгоды Жыліна і Кастыліна з «Каўказскага палонніка». Чытанне тое было ўжо ў хаце, зімой, пры лямпе. І адзін момант у тым чытанні асацыіруецца з вайной.

Бацька тае зімы зноў рабіў санкі на продаж. Дадавала гэта нейкія рублі-маркі ў гаспадарку. Той вечар габляваў капылы на вартаце. Лямпу ў такія вечары вешалі вышэй пры сцяне, каб было відно ўсім. Я станавіўся на калодку, бліжэй да лямпы, і чытаў. Папрацаваўшы колькі трэба з габэлькам, бацька адкладаў яго на вярстак, засыпаны стружкамі, здымаў са сцяны лямпу, ставіў яе на стол ля тапчана, казаў: «Хадзі сюды з кніжкай...» Мы ўжо колькі вечароў чыталі з ім услых папераменна і дайшлі да ўцёкаў Жыліна і Кастыліна з палону. Наша чытанне раптам перапыніў гучны стрэл, што данёсся са станцыі, а з ім разам адчайны, немы чалавечы крык. Так крычаць можна было ад нейкага непамернага, можа смяртэльнага болю. Пацяху ён аціх. Назаўтра гаварылі, што гэта была за прыгода. Стрэлачнік запаліў у сваёй будцы ліхтар, мусіць, не завесіўшы перад тым акно. Немцу-вартавому, дзе ён там стаяў, здалося тое святло сігналам, некаму перадаваным. І ён бабахнуў прама ў будачнае акно, трапіўшы стрэлачніку ў калена. Вось адкуль быў той начны крык на станцыі. Неяк трывожным гукам уплятаўся ён у ваеннае дзяцінства, у цэлым не такое пакутлівае, як у іншых маіх равеснікаў у свеце.

«Заранка» прыйшла да мяне той самай дарогай, як і іншыя першыя беларускія кніжкі — з Вільні, у вайну. Генадзь раз расказваў, як шмат кніжак ім давялося перанесці з нейкага склада пры старой кнігарні ў Беларускі музей (ён у вайну яшчэ трываў), і дырэктар яго дазволіў хлопцам брацца лішак выданняў сабе.

«Заранка» — адзінае дзіцячае перыядычнае выданне на ўсё маё маленства і ранняе юнацтва. Меў чытацкую ўцеху з простага гэтага часопісіка. У студэнцкія гады здзівіла, як ён выдаваўся... Пазней шчаслівa пазнаёміўся асабіста з рэдактарам і выдаўцом яго ў адной асобе Людвікай Антонаўнай Войцік — чалавекам, у чыёй памяці збераглiся, усплывалі праз гады жывыя галасы, незабыўныя аблічча апосталаў беларускага адраджэння пачатку ХХ стагоддзя Івана Луцкевіча, Максіма Багдановіча, Антона Лявіцкага, Уладзіслава Галубка, Аркадзя Смоліча, Аляксандра Уласава...

***

Засталося яшчэ крыху недасказанага пра мае школьныя пачаткі, — невялікі акрайчык згадак. Трэці і чацвёрты мае класы адбываліся яшчэ ў ваенны час. Трэці — пад нямецкай акупацыяй, а чацвёрты ўжо пасля выгнання немцаў, пры канцы вайны.

Трэці ў нас пачаўся зноў з пярэбараў. Не ведаю, з якой прычыны, але нас выставілі з той галерэі ў Агінскага. Мы апынуліся ў доме Капчынскага-паніча. У асадніка Капчынскага быў нежанаты брат, і той дамок пад гонтай яшчэ пры паляках быў пабудаваны для паніча. Стаяў ён на касагоры, непадалёк ад зарослых аерам затокаў, што ўтварыліся пры ўпадзенні рэчкі Шырокай у стаў. Быў ён без калідора і сенцаў. Зімой прыйшоўшы ў школу — а мы, трэцякласнікі, хадзілі ў другую змену, — не было дзе прыткнуцца. Хіба што ля вялікага валуна, які тут вясною пры доме грэўся на сонцы і стыў зімовай парою. Але вясной на схіле ўзгорка да рэчкі было міла, і, памятаю, на пераменках мы бавілі час на ўлонні рэчкі і яе зялёных затокаў.

Вучыла нас Алена Южык, родам з суседняй вёскі Яневічы. Мы звалі яе «спадарыня настаўніца». Яна не прыгнятала нас дысцыплінай. Абыходзілася ласкава, на што дзіцячыя душы адказвалі адэкватна.

На ўроках роднай мовы, нямецкай нас не навучалі, у трэцім класе мы пазнавалі ўжо элементы граматыкі. Запісвалі ў сшыткі першыя правілы, і мне памятна ўразіла, што быў некалі ў нашай мове сярод сямі склонаў сёмы, клічны: княжа, сыне, браце. Было, праўда, неяк нязвычна паводле граматыкі пісаць у творным склоне: «на дошцы», «на рэчцы», «на кладцы» замест «на дошца», «на рэчца», «на кладца», як казалі ў нас заўсёды.

На жаль, самой той граматыкі, як ні намагаўся я дастаць яе, у мяне не было. Мелася яна адно ў настаўніцы, запомнілася чорна-белай графічнай кветкай на вокладцы. Праз чвэрць веку, калі напісаў сваю першую кніжку, прысвечаную жыццю і дзейнасці Браніслава Тарашкевіча, як рарытэт атрымаў яе ў падарунак ад Сашы Мажэйкі. Было гэта шостае выданне «Беларускай граматыкі для школ» Тарашкевіча, з выявай матыву слуцкага пояса на вокладцы, выдадзенае падчас вайны ў Мінску. Папярэдніх пяць яе выданняў пабачылі свет у розныя гады ў Вільні. Граматыка Тарашкевіча добра паслужыла асветную службу ў 20–30-я гады ў Заходняй Беларусі, з яе вострай цягай маладых пакаленняў беларусаў да навукі на роднай мове.

***

У трэцім класе я спазнаў тое далікатнае пачуццё, што з гадамі прачынаецца ў нашай душы. Яго ў дзесяць год не назавеш каханнем. Тым не менш. На ўроках спеваў я няўзнак пачаў вылучаць для сябе сярод дзяўчатак Гэлю Лапыцкую. Яна па просьбе настаўніцы і нас спявала сола свае «грачанікі». Яе карычневыя вочы пры гэтым бліскалі жыва, на бела-ружлівы тварык спадала чорнавалосая чолка, і ў мяне святлела на душы.

Грудны чысты Гэлін голас лунаў над класам міла і ветла. Была ўцеха слухаць яго.

Школа, усё звязанае з ёю, займала вельмі важнае месца ў духоўным жыцці дзіцяці. Але быў яшчэ ўласна хатні, побытавы, навакольны свет. Тое, што на свеце ішла вялікая вайна, да часу заставалася па-за гарызонтам дзіцячай свядомасці. У нас было адносна ціха. Немцы паблізу не стаялі, не было ніякага іх гарнізону. Вёска знаходзілася блізка ад станцыі, па гэты бок Віллі, і партызаны да нас не заглядалі. Адной ноччу толькі праскочылі праз вёску, але ў нашу хату не заходзілі. Па вайне знаёмы бацькаў з Аляндa, партызан, сказаў, што стаў ля нашых варот і не пусціў хлопцаў ноччу трывожыць добрага знаёмца, свайго чалавека. Ніхто з вётхавічан не служыў у немцаў і ніхто не быў у партызанах. Падобна на тое, што нейтральная пазіцыя ўзнікала на падсвядомым узроўні.

Пад вясну 1941-га ў Вётхаве быў утвораны калгас, і далі яму назоў «Чырвоны партызан». Але ў калгас уступіла толькі частка вётхавічан: тыя, хто быў крыху заможнейшы і асцерагаўся вывазаў. Бяднейшыя не пайшлі. Сцяг, як знак калгаса, яго мяжы, развяваўся адно на сядзібе Южыкаў, а ўвесь усход, канец вёскі, заставаўся ў аднаасоб'і. Маці, паколькі бацька яшчэ не вярнуўся з палону (ён, то, пэўна, уступіў бы ў калгас), засталася сярод аднаасобнікаў. Гэта дыферэнцыяцыя вёскі, прынесеная звонку, не паўплывала на ўзаемаадносіны вётхавічан. Немцам ніхто нікога не падаткнуў, як гэта здалася ў іншых вёсках.

У першы ваенны год на полі ўрадзіла. Калгаснікі ціха падзялілі супольнае, а асобнікі сабралі сваё, і ўсе засталіся з хлебам.

Немцы з падаткамі не лютавалі. Падаткі пры іх заставаліся на ўзроўні польскага часу. Адно ціснулі на малако. Улаштавалі рэгістрацыю і медыцынскую праверку рагатых, у Маркевіча, за рэчкай, адкрылі малачарню, і ўсе кожны дзень мусілі здаваць па два літры малака ад каровы. Тое прызначае нам я часам насіў на малачарню. Па дарозе, пэўна, не без ведама бацькоў, даліваў крыху вады з рэчкі, каб бідончык быў роўны з берагамі, поўны. Бывала, стоячы на вялікім камні пры беразе, пад камлём старой вярбы, акуратна зачэрпнеш краем бідончыка вады — і пайшоў на кладку, прастуючы да Маркевічавай сядзібы. Там, пад лесам, званым Сікаўшчына, быў прыёмны пункт. З даліваннем вады абыходзілася. Прыёмшчык на тлустасць малако не правяраў. А вада ў нашым Нурцы была як крынічная, чыстая, празрыстая — кацілася ж па жвіровым дне. Мая маленькая дыверсія супраць вялікай Нямеччыны не заўважалася, сыходзіла з рук.

Дзесь на часе выхаду майго ў першы клас, памятаю, мы сеялі з бацькам жыта на Букараве. Сказаў: «мы з бацькам», абазначаючы там не як уяўнае, а зусім рэальнае. Бацька сеяў, кідаў зерне з сявалкі, а я прыбіваў услед за ім. Прыбіваць пасеянае азначала ісці з бараной услед за сейбітам, каб кінутае ім зерне затачылася ў глебу, прыкрылася зямлёй. Конь у баране ішоў спраўна. Кіраванне ім патрабавала пэўнага спрыту, увагі. Нельга было зазявацца і, галоўнае, незнарок трапіць нагой у канец лейцаў, што звісаў у руках. Тады паляціш носам у раллю.

— Вось і пасеялі мы з табой жыта, — неяк радасна паглядзеў на мяне бацька, забіраючы ў канцы ніўы з маіх рук лейцы і каня. Дасць Бог, урунее поле.

І праз гады тая зялёная галінка, што звісала некалі пры мяжы над малым баранавальшчыкам, не-не дый скалыхнецца ў памяці з далёкай пары маленства. За плуг мне давялося ўзяцца пазней, недзе ў гадоў дванаццаць, калі быў ужо ў пятым класе. Бацька на той час ужо працаваў на чыгунцы, быў заняты штодзень службай. А з маці мы папераменна ўзворвалі на зіму іржышча. Плуг быў паўтарачны, зялёны, з нямецкіх трафеяў. Задаваў асаблівы клопат малому аратаю ў канцы баразны, калі трэба было абярнуцца з канём на пашы, каб пачаць новую ходку, новую баразну. Касіць навучыўся ў сёмым класе, на тым жа Букараўскім полі. Спачатку — на рэдкаватай там з-за беднасці грунту канюшыне.

Але ўсё гэта было пазней. А яшчэ быў цэлы кавалак нашага жыцця пры немцах, як звычна казалі ў нас, азначаючы дзяржаўны статус, характар улады над намі: «пры паляках», «пры саветах», «пры немцах».

**Працяг будзе**

▸ КОНКУРС

# «МЫ2012»

**Беларускі саюз дызайнераў і Беларускі саюз мастакоў абвяшчаюць пачатак беларуска-польскага конкурсу графічных праектаў «МЫ2012».**

Галоўная мэта конкурсу — асэнсаванне ўласнай культурнай ідэнтычнасці і спроба яе візуалізацыі сучаснымі пластычнымі сродкамі. Переможцы конкурсу з абодвух бакоў будуць адзначаныя паездкай у краіну-суседку і памятнымі ўзнагародамі.

Прызавы фонд для беларускіх аўтараў, які склаў 7 500 000 рублёў, быў заснаваны МГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Адмысловая прэмія, якая будзе ўручаная пераможцам, атрымала назву «Будзьма беларусамі!» невыпадкова. На думку арганізатараў, менавіта назва аднайменнай грамадскай кампаніі як мага лепш адпавядае мэтам конкурсу і дазваляе прыцягнуць увагу да важнасці пошуку і ўвасаблення нацыянальных маркёраў у сучаснай форме.

Конкурс мае за мэту адбор, прэзентацыю і ўзнагароджанне твораў, якія найбольш чытэльна і запамінальна расказваюць пра культуру, ствараюць яркія мастацкія вобразы і прэзентуюць адметнае аўтарскае бачанне. Заяўленыя на конкурс творы маюць расказаць пра культуру кожнай краіны з дапамогай візуальных моваў розных жанраў і кірункаў, трактуючы нацыянальную культуру як у глабальным, так і ў лакальным кантэксце.




На конкурс могуць дасылацца работы, выкананыя ў любым жанры — плакат, постар, знак, паштоўка, ілюстрацыя, станковая графіка, макеты кніжак, газет, фатаграфічныя праекты і інш. Заяўленыя праекты павінныя быць чытэльнымі як для гледачоў краіны аўтара, так і для гледачоў замежных.

З работ, адабраных міжнародным журы, будзе сфармаваная сумесная выстава «МЫ2012», якая ўвосень гэтага года па чарзе будзе паказаная ў Мінску і ў Варшаве. Паралельна з выставай адбудуцца двухбаковыя творчыя сустрэчы і дыскусіі. Усе этапы праекту будуць асвятляцца на спецыяльна створанай інтэрнэт-старонцы, якая запрацуе найбліжэйшым часам. Ужо працуе старонка праекту ў Facebook.

Па ўсіх пытаннях, звязаных з конкурсам, вы можаце звярнуцца па тэлефоне +375 293 80 75 ці на электронны адрас bdu@nsys.by (з пазнакай «Мы»).

**Алесь Плотка, прэс-сакратар грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!»**

▸ АНОНС

# ЗАР.L.A.N.АВАНЫ МЕЛАДЫЗМ «КАРЛЫ-МАРЛЫ»

**Кастусь БАЕШКА**

**Ходнікавая зона вуліцы Карла Маркса ў Мінску пакрысе набывае папулярнасць. Акрамя майстроў жывапісу і цыркавога мастацтва там рэгулярна можна паслухаць і сапраўдных лідараў беларускага року.**



Ужо выступалі папулярныя «МутнаеВока», «Re1ikt», «Recha», малады гурт медыевальнай музыкі «Тутэйшыя» ды шмат іншых калектываў. У бліжэйшыя выходныя (нядзеля, 9 верасня) гасцей Свята горада чакае сустрэча з мілагучнымі песнямі гурта «P.L.A.N.» пад адкрытым небам.

Лідара калектыву Андрэя Плясанава рок-крытыкі невыпадкова называюць лепшым меладыстам пасля Мулявіна. А шэсць альбомаў калектыву (і блюз-рок, і unplugged) дэманструюць і іншыя таленты Плясанава. Ён жа яшчэ і калекцыянер авангарднага жывапісу, арганізатар першых рок-фестываляў і мастацкіх выставаў, а сам як мастак трапіў у галандскі кніжны фаліянт «1001 лепшы мастацкі позірк на свет XX ст.». Карціны, бодзі-арт, кнігі, сусветныя выставы трапілі ў мультымедыйныя бонусы тых кампакт-дыскаў.

Ёсць на дысках і кліпы Андрэя Плясанава, бо паводле адукацыі ён прафесійны рэжысёр. У праграме нядзельнага выступу артыста прагучаць не толькі лепшыя песні гурта «P.L.A.N.» з тых шасці альбомаў, але і не апублікаваныя яшчэ творы.

Паралельна будзе праходзіць аўтограф-сесія самога Плясанава і музычных крытыкаў Вітаўта Мартыненкі ды Анатоля Мяльгуя, у кнігах каторых («222 альбомы беларускага рока», «Rock on-line») шырока прадстаўлена творчасць гурта «P.L.A.N.».

Запланаваны час выступу «P.L.A.N.» на deptaku Карла Маркса — 9 верасня, нядзеля, з 18.30 да 19.30.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.
ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА: 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81. novychas@gmail.com; www.novychas.org
НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
Замова № 985

Падпісана да друку 07.09.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.